

Песні Булата→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Лапы побач Беластока→9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 30 (3193) Год LXII | Беласток, 23 ліпеня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Маладосць + энтузіязм = «Басовішча»



**Самае файнае ў гэтым фестывалі тое, што яго арганізуюць студэнты, — сказаў у інтэрв'ю Радыё Рацыя Юрка Сульжык, у мінулым старшыня Беларускага аб'яднання студэнтаў і арганізатар не аднаго «Басовішча», — што гэты фестываль не такі да канца прафесійны і камерцыйны, як тыя, што маюць магутныя бюджэты, на якіх дзе не ступіш нагой, то бачыш, што ўвалілі ў яго велізарныя грошы.**




«Дай дарогу»

Мне асабіста таксама падабаецца энтузіязм маладых людзей, нават іх пазітыўная імправізацыя, якая зрэдзь часу перакЛікаецца з творчым хаосам. І ў адвечным споры пра тое, хто павінен арганізаваць Фестываль музыкі Маладой Беларусі і як зрабіць яго яшчэ лепшым я заўсёды быў на баку тых, хто супрацiўляўся „прафесіяналізацыі” «Басовішча», то-бок перадачы арганізацыйных клопатаў нейкай фірме, якая зрабіла б у Барыку невядома што! Вось менавіта, мо і было б на канцэртах больш людзей, мо прыязджалі б ярчэйшыя зоркі, мо музыка гучала б больш зладжана і гарманічна, але замест «Басовішча» было б невядома што. А так маем нязменна найважнейшы гадавы пачын Беларускага аб'яднання студэнтаў і адну з цікавейшых культурных імпрэз на Беласточчыне. Ды і арганізацыйныя справы ў апошніх гадах, па-мойму, усё больш дапрацаваныя, пачынаючы ад «Адборышча» ў Менску, а заканчваючы на парадку на сцэне і вакол яе. Не здараецца цяпер, каб які гурт мусіў сябе абмяжоўваць, бо іншыя зацягнулі свой канцэрт. Няма таксама музыкаў, якія па тых ці іншых прычынах самі сарвалі б свой выступ, а такое бывала ў мінулым. Сёлета ўсё гладка кацілася вызначанай арганізатарамі каляінай. І гэта пры тым, што «мы падрыхтоўкай да фестывалю займаемся ў вольны час, вечарамі, бо ж штодзень ходзім на заняткі, вучымся, здаем экзамены», — сказала ў тэлеперадачы «Беларускі тыдзень» адна з трох галоўных каардынатараў «Басовішча» (разам з Лідзіяй Пякарскай і старшынёй БАСу Пётрам Станкевічам) Юліта Тымашэвіч.

Фестываль пачаўся, як звычайна, конкурсам. Сёлета паспяхова праз менскае «Адборышча» прайшлі чатыры гурты. Найлепшым з іх журы «Басовішча» палічыла «Teleport» — гурт з беларускай сталіцы, які іграе ўжо пяць гадоў. Іх музыку Віктар Сямашка — сам музыка, паэт і журналіст Радыё Рацыя — назваў псіхадэлічным, інтэлігентным рокам. Конкурсны выступ быў настолькі кароткім, а да таго яшчэ ў промнях сонца, што цяжка было адчуць іх «псіхадэлію». Таму спадзяюся на даўжэйшы канцэрт праз год, на які — як лаўрэаты — маюць права. І пасля захаду сонца, што для такой музыкі будзе стварацы больш адпаведны антураж.

Калі кажам пра псіхадэлію, то мне гэтае слова асацыюецца перш-наперш з гуртом «Рэлікт», які ўпарта крочыць сваёй дарогай, якога немагчыма зблытаць з кім-небудзь іншым. І крыху з «Вураем», з салістам Сяргеем Доўгушавым, які багата чэрпае з народнай творчасці і пераасэнсоўвае яе на свой густ і сваё разуменне музычнага мастацтва. Сёлетняе «Басовішча» наогул музычна стракацела, бо побач даволі рэзкага і цяжкога гучання берасцейцаў з «Дай дарогу» быў вядомы сваімі сярэднявечнымі напевамі ды танцамі «Стары Ольса». Дарэчы, калектыў стварыў вельмі добрую атмасферу ў пачатку другога вечара, паднўшы на ногі вялікую колькасць удзельнікаў фестывалю. Украінскія рускамоўныя «Вагонаважатыя» тусаваліся на адной сцэне з радасным «Нагуалем», які большасць песень спявае на прыдуманай лідарам гурта Леанідам Паўлёнкам мове і заўсёды сваім аптымізмам заражае публіку. Так было і гэтым разам, іх музыка прыцягнула пад сцэну шмат людзей, якія тут жа пусціліся ў скокі. Многія гледачы прыйшлі дзеля расслаўленага Еўрабачаннем «Навібанду», якога шлях на вялікія сцэны пачынаўся некалькі гадоў таму менавіта тут, ва ўрочышчы Барык пад Гарадком. Сваіх фанаў мае магілёўская група «Акутэ». Мае таксама беластоцкая група «Ilo and Friends», якая вельмі салідна працуе над сваімі творамі і гэта адчуваецца. Сёлета іх канцэрт быў вельмі гарманічным, чыстым, моцным. Пэўнай загадкай перад фестывалем быў «The Superbullz», які стварылі музыкі вядомыя раней з «Крамбамбулі». І хаця гралі яны позняй ночу, калі стрэлкі гадзінніка даўно перавалілі за поўнач, варта было дачакацца. Мне асабіста вельмі спадабаліся польскія рэперы «Łona, Weber and The Pimps», якія — было відаць — маюць многа прыхільнікаў сярод моладзі ў Польшчы. І якія дакладна ведалі, куды прыехалі. Таму вокліч «Жыве Беларусь!» з іхніх вуснаў упісваўся гарманічна і ў месца, і ў тэксты іхніх песень. Вельмі добры быў канцэрт! Бадай найбольшы натоўп пад сцэнай быў якраз пры гэтым гурце.

— Я задаволеная, — сказала мне ў пасляфестывальны панядзелак іншая каардынатарка імпрэзы Лідзія Пякарская. Папраўдзе я яе ледзь чуў па тэлефоне, бо голас застаўся дзесьці пад сцэнай у Барыку, а Ліда ўжо была на працы ў Варшаве, тым не менш адказ на пытанне, ці будзе «Басовішча» праз год прагучаў выразна: так.

Мяне, як чалавека, якому да гэтай пары нейкім цудам удалося быць на ўсіх выпусках фестывалю, ад першага па апошні, такі адказ поўнасцю задавальняе. Нават, калі ўжо ўсё цяжэй выстаяць на канцэрце ад пачатку да канца. Тут, на шчасце, з дапамогай апошнімі гадамі прыходзіць Радыё Рацыя, якое не толькі транслюе ўсе канцэрты, але яшчэ і дазваляе пазнаёміцца з выканаўцамі, праводзячы з імі цікавыя размовы ў жывым эфіры, тут жа, пад самой сцэнай адразу пасля выступаў. Пры нагодзе хачу тут адзначыць выразны прагрэс музыкаў у валоданні беларускай мовай. Калі ў папярэдніх гадах далёка не ўсе з іх маглі складна выказаць свае думкі па-беларуску, дык сёлета, здаецца, не было такіх, якім гэта дастаўляла б нейкую цяжкасць. Прыемна думаць, што сваю ролю адыграла тут і «Басовішча».

Таму арганізатарам жадаю і на будучыню моцы духу, напорыстасці ў пераадольванні цяжкасцей, цікавых задумак і шмат задавальнення ад працы пры арганізацыі Фестывалю музыкі Маладой Беларусі «Басовішча». Каб гэта было для вас важнай прыгодай, памяць пра якую будзе з вамі і ў пазнейшых гадах. Так як у нашым пакаленні, сённяшніх пяцідзесяцігодкаў. Гэта больш важнае, чым грошы, якіх заўсёды бракавала і будзе бракаваць.

А калі я ўжо згадаў Рацыю, то дазволю сабе яшчэ адну цытату. Вось што Лукашу Леанюку сказала Барбара Пякарская, другая старшыня Беларускага аб'яднання студэнтаў, суарганізатарка першых «Басовішчаў»:

— Неаднаразова думалі мы ў мінулым, што можа трэба было прафесіяналізаваць фестываль, стварыць нейкую праграмную раду з больш дарослых асоб. Цяжка сказаць, ці гэты фестываль быў бы лепшы. З другога аднак боку, каб не «Басовішча», то пэўна даўно не было б і Беларускага аб'яднання студэнтаў, і групы маладых людзей, якія з такім энтузіязмам гэта робяць. Спадзяюся, што для іх гэта таксама важны вопыт, якім яны карыстаюцца ў дарослым жыцці.

**Мікола ВАЎРАНЮК**




«Teleport»





# Канец фільма

Многа чаго давялося наслухацца і нагледзецца ў судах Рэспублікі Беларусь па грамадска-рэзанансавых справах за апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў. Але мяжы і вяршыні абсурду, падаецца, усё ж няма. Чарговая грамадска-палітычная справа, якую разглядаў гарадзенскі суд, не прынесла нейкіх станоўчых вынікаў, хоць і мела сваe адметнасці. І канешне сваё дасягненне, якое можна смела заносіць у сусветную кнігу судовага абсурду. Такая кніга, праўда, не існуе, але відаць наспела пара яе стварыць.

Справа датычыла іску аднаго з лідараў Гарадзенскай філіі партыі Беларускі народны фронт Вадзіма Саранчукова да Гарадзенскага тэлерадыёаб'яднання аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі. Пасля веснавых маршаў пратэсту ў горадзе над Нёманам з нетраў гарадзенскага дзяржаўнага тэлебачання на блакітныя экраны жыхароў Прынямоння выйшаў дакументальны фільм пра некаторых актывістаў рэгіянальнай дэмакратычнай апазіцыі. Фільм пад назвай „Марш в никуда". Назваць, зрэшты, гэта фільмам ці журналісцкай творчай працай, цяжка. Па сутнасці дзяржаўныя прапагандысты скляпалі брудны пасквіль, не шкадуючы чорнай фарбы і агідных выразаў, збэсцілі некалькі грамадскіх і палітычных актывістаў, якія тым ці іншым чынам удзельнічалі ці прысутнічалі на веснавых акцыях так званага пратэсту недармаедаў. Адзін з антыгерояў па версіі аўтараў гэтай паскуднай стужкі Вадзім Саранчукоў падаў заяву ў суд. І правільна зрабіў. Бо адна справа, калі грамадскіх актывістаў паліваюць брудам на нейкіх ананімных сайтах, якіх развялося зараз у вялікай колькасці. І зусім іншая рэч — калі дыскрэдытацыяй, свядомай хлуснёй і абразамі займаецца дзяржаўнае тэлебачанне.

Што заказчыкаў гэтага фільма-пасквіля мы не ўбачым у судовым працэсе, было зразумела ад пачатку. Гэта людзі з іншых кабінетаў і ўстаноў. А ўжо ў час дасудовага разбіральніцтва стала ясна, што не з'явяцца ў зале судовага пасяджэння і выканаўцы палітычнага заказу. Глядзець у вочы людзям гэтыя псеўджурналісты, людзі, якія пакліканы вяшчаць праўду, але насамрэч займаюцца хлуслівай прапагандай, папросту баяцца. На працэс яны выпхнулі нейкага Барыса Іванавіча, юрыста, які прадстаўляў бок адказчыка.

Цікавай разынкай працэсу стала тое, што суддзя Ксенія Стасюкевіч вяла яго пабеларуску. З'ява рэдкая як для сённяшняй Беларусі. А вось прадстаўнік Гарадзенскага тэлебачання прасіў разглядаць справу па-расейску. Зрэшты, як і належыць прадстаўніку па сутнасці антыбеларускага тэлебачання. І вось тут падыходзім да сама галоўнага — нечакана высветлілася, што ў згаданага фільма няма аўтара. Стужка з канкрэтнымі часам і назвай ёсць, вісіць яна ў інтэрнэце дагэтуль, відэа ёсць, голас, які агучвае пасквіль, пазнавальны многім, а аўтара ці аўтараў фільма...няма! Так сцвярджае адказчык і гэта па сутнасці прызнае і вызначае суд. Вызначае таму, што адхіляе ўсе хадайніцтвы аб выкліку сапраўдных сведак. А некаторых асоб прысутная грамадскасць хацела б убачыць і паслухаць. Прыкладам, дырэктара тэлерадыёкампаніі „Гродно" Нікалая Мельчанку, пры якім гарадзенскае тэлебачанне стала амаль цалкам расейскамоўным. І стала такім, што прадукуе фільмікі кшталту „Марш в никуда". На гарадзенскім тэлерадыёаб'яднанні працуе агулам каля ста чалавек. Цікава, у якую незгаральную шафу ўсе яны запхнулі свае сумленне?!

У выніку суд пры разглядзе іску заглыбіўся ў дробныя і неістотныя дэталі, высвятляючы з'яўляецца Саранчукоў рамеснікам ці не, вырабляе ён сувенірную прадукцыю ці не і таму падобнае. І як ужо здагадаўся чытач, суд адхіліў пазоў заяўніка, а значыць не прызнаў, што тэлерадыёкампанія прынізіла гонар і годнасць грамадскага актывіста і нанесла шкоду яго дзелавой рэпутацыі. Вось такі ён, Ленінскі суд Гародні. Калі судзяць незалежных журналістаў-фрылансераў, то іх прызнаюць аўтарамі матэрыялаў і штрафуюць паводле артыкулаў, за якія маюць адказваць толькі юрыдычныя асобы — рэдакцыі. Калі ж справа кранулася дзяржаўнага тэлебачання, то тут аўтараў няма. Як кажуць, канцы ў ваду. І канец фільма...

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Д'ябальскае апісанне

Драмы Ежы Шаняўскага — таго ад «Двух тэатраў» і прафесара Туткі, нягледзячы на мінулыя гады, для мяне зусім не састарэлыя. Я вяртаюся да яго чароўнай творчасці паслядоўна — можа, у адпаведнасці з несмяротным прынцыпам, што ахвотна чытаем тое, што ўжо прачыталі, і, магчыма, для яго настальгічнай фразы і асаблівага апавядання, якім вабіць да сябе Чытача, адкрываючы яму ідэі, якія кранаюць Абсалют. У любым выпадку, ахопліваe мяне чытацкае хваляванне, калі з дыялогаў яго герояў выходзіць звычайны чалавек і невырашальная спрэчка паміж Ідэяй і Праўдай, Марай і Рэальнасцю, Дзяцінствам і Дарослацю. Гэтая спрэчка таксама ўва мне. Хай тут не будзе проста на месцы напамінак аб непаўторнай фразе з драмы „Матрос": „Людзі часта называюць дзіцячымі тыя рэчы, з якіх ужо выраслі, і часта тыя рэчы, да якіх яшчэ не дараслі".

Часам, я не памятаю, што раней сказаў, пра што напісаў. Гэтак можа быць у выпадку майго захаплення Шаняўскім. Я ведаю толькі, што аб ім я гаварыў, што пра яго я пісаў. Гэта тычыцца многіх рэчаў. Паспрабую гэта абагульніць.

Праблема заключаецца ў тым, што пасля некалькіх гадоў я не магу дакладна сказаць, ці тое, што я ведаю, што я памятаю, мае падтрымку ў фактах ці ў апавяданні, якое я выкарыстаў у той час, каб расказаць пра іх або іх апісаць. Я не падазраваю сябе самога ў несумленнасці, але тое, што я бачу цяпер, агляд фактаў — якімі б яны не былі — гэта не проста копія рэальнасці ў памяці. Ужо тое, што памяць мае тэндэнцыю да памяншэння дэталяў паказвае, якая яна кульгавая. Акрамя таго, накладваюцца на яе актуальныя ў той час і пасля блекнучыя эмоцыі. Часта таксама адбіваюцца ў іх месцах іншыя — хоць неяк звязаныя з фактамі з мінулага, але меўшыя свае асобныя крыніцы — другарадныя эмоцыі, неабавязкова ў тым жа патэнцыяле, што і першасныя. Змяняюцца таксама нашы ідэалагічныя або філасофскія падставы. Зусім не маю я на ўвазе радыкальных пераацэнак. Разам з паглыбленнем ведаў аб свеце і людзях, а таксама пра саміх сябе, развіваецца разуменне рэчаў. За гэтым мяняюцца пазнавальныя перспектывы. Гэтыя змены з'яўляюцца тонкімі і амаль незаўважнымі. Але ўсё-ткі гэта змены.

Апавяданне, як інструмент для апісання рэальнасці, не ўлічвае змен. Мае справу з фактамі ў момант іх стварэння. Гэта так, як напісаць поўную біяграфію чалавека, які толькі быў пачаты. Такім чынам апавяданне перамяшчае факты ў вобласць верагоднасцей. Яны становяцца пост-фактам. Як праўда становіцца пост-праўдай. Асацыяцыі прыходзяць самі па сабе. Кіруючае цяпер Польшчай і яе грамадзянамі (прынамсі частка́й з іх) Права і справядлівасць апавядае гэта знакаміта. Больш за праўду і толькі праўду нясе самую чыстую праўду над тое, што відавочнае ў любым сэнсе — відавочную відавочнасць, урэшце, робіць апавяданне вышэйшым, чым факты. І дадам, што той наратыў вельмі, вельмі свабодны. Каб не сказаць — прымітыўны.

Некалькі гадоў таму амерыканскі пісьменнік, зачараваны бліскучай творчасцю аргенцінца Хорхе Луіса Борхеса, большменш аднагодка Шаняўскага, аўтара шакіруючай (прынамсі для мяне), «Фікцыі», сустрэўся з ягоным бацькам. О так, каб штосьці даведацца пра аўтара, больш чым тое, што змяшчаецца ў біяграфічнай даведцы. Ён так яго ўспамінае: «Пажылы чалавек меў звычку паўтарацца пра сваё дзяцінства ў Буэнас-Айрэсе. Ён мог у час аповеду раптам спыніцца і спытацца ў сябе самога, ці сапраўды памятае Буэнас, ці проста аповед пра яго, які вычароўваў нейкі час таму».

Гэты літаратурны анекдот, хоць мае павярхоўны характар, аднак, раскрывае сутнасць апавядання. А яна аголена, як славуты турэцкі святы. Больш ахвотна ўспрымаем рэальнасць праз апавяданне, якое нейкім чынам прыводзіць факты, а не самі факты, якія з апавяданнем не маюць шмат агульнага. Факты, акрамя таго, сцвярджаў нямецкі філосаф Фрыдрых Ніцшэ, дурныя. Але ці напэўна? Я працытаваў гэтую заяву ўжо ў іншых кантэкстах. Міхаіл Булгакаў пісаў яшчэ ў іншым кантэксце, што найгоршай рысай фактаў з'яўляецца іх упартасць. Гэтая ідэя была падхопленая пазней Сталіным, аб чым я ўжо пісаў. Фактаў ён баяўся, як чумы. Апавяданне, якое ён стварыў, было прымітыўным гэтак жа, як і д'ябальскім. І многіх, многіх звычайных людзей яно спакусіла. У гэтай тэме я больш нічога не скажу. І нічога больш не напішу.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Час ваўчара

Некалькі тыдняў раней згадваў я ў гэтым месцы пра дваццаціпяцігоддзе польска-беларускіх дыпламатычных адносін. Сёння паміж дзвюма краінамі ў палітычным і чалавечым вымярэнні менш супольных спраў і ўзаемаразумення, чымсьці чвэрць стагоддзя таму. Палітычныя перамены ў Польшчы 1989 г., развал Савецкага Саюза (здзейснены ў Віскулях, што ў памежнай Белавежскай пушчы), узнікненне незалежнай, беларускай дзяржавы давала надзею на адраджэнне шчыльнейшых кантактаў таксама і паміж сумежнымі рэгіёнамі. Шанц, аднак, не быў скарыстаны ў плане рэгіянальна-самаўрадавых кантактаў. Гістарычныя рэсентыменты, іншыя палітычныя вектары замежнай палітыкі не спрыялі трансгранічнаму супрацоўніцтву на польска-беларускай мяжы. Інакш мелася справа на польска-нямецкім ці польска-чэшскім памежжы. Там спачатку пабольшылася колькасць памежных пераходаў, развівалася інфраструктура і супольныя трансгранічныя праекты. А далучэнне Польшчы да Еўрасаюза 1 мая 2004 года ліквідавала межы і пераарыентавала грамадска-палітычнае мысленне грамадства цалкам на заходні напрамак. Эканамічная міграцыя за хлебам і свабода перамяшчэння давялі да адтоку таннай, польскай рабочай сілы з карысцю для гаспадарак заходніх краін. Асабліва выезды толькі ў адзін бок соцень тысяч маладых людзей самым простым чынам здымалі з польскіх улад праблему грамадскага незадавальнення і сацыяльна-палітычных пратэстаў. У дадатак тыя ж людзі грашамі, заробленымі на Захадзе, натуральным чынам успамагалі свае сем'і ў Польшчы. Аднак у нацыянальным і гаспадарчым плане палітыка падтрымлівання міграцыі, як галоўнага эканамічнага рэцэпта на ўсе ўнутраныя клопаты, была між іншым адным з галоўных фактараў паразы кіруючай Грамадзянскай платформы на апошніх прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах 2015 года.

Але давайце вернемся на Усходнюю сцяну пачатку дзевяностых. Тут мяжа, тады будучая натаўская і еўрасаюзная, мела быць шчыльнай, добра пільнаванай. Таму не былі патрэбныя і не адкрываліся новыя пагранпераходы. А прыток людзей з пашпартамі па абодвух баках мяжы, якія на пачатку 1990-х гадоў, не чакаючы дзяржаўных распараджэнняў, узялі справы ў свае рукі, з часам пачаў абмяжоўвацца дзяржаўнымі распараджэннямі. З'явілася чарговая рэальная заслона. Пад прыцэл консульскіх аддзяленняў і візавых бічоў вярнулася поўнасцю польскае і беларускае грамадства. Значыць, вярнулася палітыка таксама ў яе найгоршым варыянце, калі мы ізноў сталі заложнікамі.

Таму хачу нашым чытачам прыгадаць толькі адну асаблівасць 1990-х гадоў на памежжы — ваўчары. Для тых хто не ведае, а тым хто забыў нагадваю: быў гэта кусок паперы, куплены ў турыстычнай фірме ў любую пару дня і ночы нават на самой мяжы, які даваў права на ўезд у Беларусь і наадварот. Такі дадатак да пашпарта і свабода. Зразумела, былі і візы, якіх таксама не шкадавалі выдаваць консульскія аддзяленні. Таму паехаць на каву ці на дзень нараджэння да сяброў у Гродна, Брэст ці Мінск, не было аніякай перашкоды. Задумаў і паехаў цягніком, або на аўтобусе. А калі ты загуляў, а транспарту ўжо не было, то і на таксі без праблем можна было перасячы мяжу. Нічога затым дзіўнага, што на пачатку дзевяностых гадоў Беласток і Гродна злавілі другое дыханне. Кантрабанда, базары, долары. Ліхаманка свабоды і наіўнай веры ў жыццё без прыгнёту дзяржавы. Базар па вуліцы Кавалерыйскай у Беластоку быў у Польшчы цэнтрам свабоднага гандлю. У самым лепшым перыядзе яго дзейнасці працавала там звыш сорак кантор абмену валюты, у якіх, паводле некаторых падлікаў, абменьвалася ў дзень па тры-чатыры мільёны долараў ЗША. У гэтым жа самым часе наглядаем небывалы росквіт рэчавых рынкаў у Гродне, якія выконвалі ролю оптавых цэнтраў для гандляроў з усяго былога Савецкага Саюза. Тут і там узнікаюць першыя фартуны, катэджы, новыя і перапоўненыя рэстараны, шынкі, з'яўляюцца аферысты, сутэнёры і мафіёзі. Здавалася — абяцаная зямля канца дваццатага стагоддзя. І мела ўсё быць вечнасцю. А зараз усё мінула і засталася толькі жменя ўспамінаў пад круглую дату.

Яўген ВАПА

# Звышчасовыя песні
# Булата Акуджавы

Конкурсныя слуханні і гала-канцэрт IV Міжнароднага фестывалю паэтычнай песні імя Булата Акуджавы «Вера, надзея, любоў» адбыліся 8 і 9 ліпеня ў Гайнаўскім доме культуры і амфітэатры ў Гайнаўцы. Фестывальныя канцэрты з 5 па 10 ліпеня прайшлі таксама ў Варшаве, Любліне, Беластоку і Шапятове. Праз песні Булата Акуджавы адбылося прапагандаванне звышчасовых і звышнацыянальных каштоўнасцей — веры, надзеі і любові, якія сталі лозунгам фестывалю. Анатоль Баравік, бард родам з Гайнаўкі, галоўны арганізатар фестывалю, спяваў свае аўтарскія песні на словы непублікаваных вершаў аб трагедыі сям'і Акуджавы ў савецкі час. Зміцер Бартосік з Мінска, журналіст Радыё Свабода, спяваў песні Булата Акуджавы па-беларуску, карыстаючыся перакладам Рыгора Барадуліна.


■ Першае месца заняў Віталій Лучэнка

Гала-канцэрт 9 ліпеня ў гайнаўскім амфітэатры адкрылі Анатоль Баравік, старшыня Грамадска-культурнага аб'яднання «Ігранне без межаў», якое арганізуе фестываль паэтычных песень Булата Акуджавы, і Вольга Акуджава, якая ад першага выпуску трымае галоўны патранат над фестывалем. Памагалі ім прадстаўнікі самаўрадаў, якія на сцэну выйшлі разам з доктарам Паўлам Грабоўскім з Анкалагічнага хоспіса ў Новай Волі і вучнямі Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы. Школьнікі падчас гала-канцэрта збіралі ахвяраванні на дзейнасць нававольскага хоспіса. У час канцэртаў у Варшаве, Любліне і Беластоку таксама збіраліся сродкі для хоспісаў у гэтых гарадах, што ўжо стала традыцыяй фестывалю. Вольга Акуджава падзякавала фестывальнай публіцы за ўдзел у мерапрыемстве і зацікаўленасць творчасцю яе мужа. Спадарыня Вольга расказала пра фестываль Булата Акуджавы ў Расіі, музей, створаны ў гонар яе мужа, аб зацікаўленасці творчасцю Акуджавы ў многіх краінах і выдаванні кніг яму прысвечаных.

Першай перад гайнаўскай публікай выступіла лаўрэатка першага месца мінулагодняга фестывалю Ізабела Шафранская, якой акампанемент на гітары састаўляў Павел Сакалоўскі. Мілай неспадзеўкай для гайнаўскай публікі была перамога ў конкурсе фестывалю дваіх гайнавян — Яна Сябешука, ураджэнца Пасынак, і Дар'і Маркевіч-Красько, якая калісьці спявала ў белліцэйскай «Znіч-цы», а зараз жыве ў Варшаве.

— Калі мне было васямнаццаць гадоў, я зарабіў грошы, купіў гітару і сам пачаў вучыцца на ёй іграць. Пасля стаў спяваць пад гітару. Мой першы выступ на сцэне быў падчас ваяводскіх адбораў фестывалю савецкай песні, якія за маёй моладасці праходзілі ў Бельску. Тады мы ў Пасынках пад гукі гітары спявалі беларускія, украінскія і расійскія песні. Сам стаў я спяваць творы Булата Акуджавы, цікавіцца таксама іншымі аўтарскімі песнямі. Учора я прыйшоў на конкурсныя слуханні і спытаў як стаць удзельнікам фестывалю. Мяне запісалі ў лік выступоўцаў. Праспяваў я дзве песні і міла было даведацца, што заняў я ажно другое месца, — сказа мне пасля выступу на гала-канцэрце Ян Сябешук.

Дар'я Маркевіч-Красько выхоўвалася на беларускай песні ў калектыве «Znічка». Удала выступіла яна перад конкурснай камісіяй і атрымала другое вылучэнне. Першае месца заняў Віталій Лучэнка з Варшавы, які дзяцінства і юнацтва правёў на Украіне, а з дзевяностых гадоў жыве ў Польшчы. Сваё майстэрства паказаў ён падчас гала-канцэрта.

— На Украіне выступаў я ў рок-гурце, любіў таксама песні Акуджавы. Любоў да яго творчасці засталася ўва мне па сённяшні час. Я першы раз выступаю на гайнаўскім фестывалі і рады, што заняў першае месца. Тут — славянская атмасфера. На фестывалі спаткаў я аднадумцаў, захопленых песнямі Акуджавы.


■ Лаўрэат другога месца, гайнавянін Ян Сябешук


■ З песнямі Акуджавы па-беларуску выступіў Зміцер Бартосік

У гэтай кампаніі мы ўдала праводзім час, — заявіў Віталій Лучэнка.

Трэцяе месца журы прызначыла Якубу Цукерману з Кракава, які ўжо трэці раз змагаўся за конкурснае першынство ў гайнаўскім фестывалі і на гэты раз стаў лаўрэатам конкурсу. Першае вылучэнне атрымаў калектыў «Sweet Hilo Night» з Беластока.

— Калектыў «Sweet Hilo Night» запрэзэнтаваўся на высокім узроўні. Але рашэннем журы было яму прысвоена вылучэнне, а не адно з трох пераможных месцаў, — заявіў Якуб Цукерман, які таксама прыстойна спяваў перад публікай.

Вольга Акуджава адзначыла займальнае выкананне твораў мужа пераможцамі фестывальных спаборніцтваў і адчуванне імі глыбіні яго слоў, але адначасна заявіла, што былі і слабыя выступленні. Старшыня журы Іаанна Равік сказала, што ўзровень выступленняў лепшых канкурсантаў сёлета быў вышэйшы чым у мінулых гадах. Айчынныя і замежныя госці фестывалю звярнулі ўвагу на ўдзел у конкурсе маладых асоб. Па-беларуску з песнямі Акуджавы выступіў вядомы беларускі бард з Мінска Зміцер Бартосік, журналіст Радыё Свабода.

— Я выхоўваўся ў сям'і, дзе слухалі песень Булата Акуджавы. Я ўрос у іх, а пасля сам стаў іх спяваць. Песні Акуджавы звышчасовыя, звышнацыянальныя. У іх мы знаходзім агульначалавечыя вартасці. Зараз песні Акуджавы пра вайну гучаць зусім інакш, чым яшчэ пяць гадоў назад. Цяпер знаёмыя нашых знаёмых ваявалі на Украіне як на адным, так і на другім баку канфлікту. Мы, слухаючы ў Беларусі Булатавы песні аб вайне, маем на ўвазе перш за ўсё канфлікт, які працягваецца непадалёк ад нас, — сказаў беларускі бард Зміцер Бартосік.

— Я падрыхтаваў праграму на беларускай мове, з якой выступаў па Беларусі ў рамках праекта «Будзьма беларусамі». Папрасіў я Рыгора Барадуліна, каб ён зрабіў мне пераклад слоў выбраных песень Акуджавы і таксама іншых аўтараў на беларускую мову, што паэт зрабіў па-майстэрску.


■ Анатоль Баравік заспяваў песні на непублікаваныя вершы Акуджавы

Лідзія Чынарова прыехала са Смаленшчыны, якая вядомая нам між іншым з-за Смаленскай іконы Божай Маці, копія якой вядомая ў нас як Супрасльская ікона Божай Маці. Выступаючы ў Гайнаўцы, спадарыня Лідзія паказала прыгожасць паэтычнай песні і звышчасовасць твораў Булата Акуджавы. Гэтае ж рабілі таксама іншыя выканаўцы гала-канцэрта — барды Аляксей Сідараў і Анастасія Арлова з Расіі, Барбара Каліноўская з Быдгашчы, Эдвард Валенскі з Беластока (родам з Украіны), калектыў «Trzeci Oddech Kaczuchy».

— Мы папулярызуем творчасць Акуджавы, аднаго з самых вялікіх бардаў XX стагоддзя. Я рады, што многа публікі прыходзіць на нашы канцэрты, што зацікаўленасцю карыстаецца конкурсная частка фестывалю. Жонка Булата Акуджавы, Вольга, передае мне непублікаваныя вершы яе мужа. Яны тычацца трагічнага лёсу сям'і Акуджавы — бацька Булата і многія яго сямейнікі загінулі ў савецкіх турмах, а сам Булат узрастаў як сын ворага Савецкага Саюза. Я скампанаваў музыку да гэтых вершаў і некаторыя з іх сёння заспяваю, — сказаў арганізатар фестывалю Анатоль Баравік.

Грамадска-культурнаму аб'яднанню «Ігранне без межаў» Міжнародны фестываль паэтычнай песні імя Булата Акуджавы «Вера, надзея, любоў» дапамагаюць ладзіць у галоўным улады Падляшскага ваяводства, горада Гайнаўкі, Павятовага старасва ў Гайнаўцы, Гайнаўскай гміны і Гайнаўскі дом культуры, а патранат над фестывалем трымаюць Вольга Акуджава, маршалак Падляшскага ваяводства, падляшскі ваявода, Галоўная ўправа Саюза польскіх літаратараў і прэзідэнты гарадоў Беласток і Люблін.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Новыя чытачы сярод маіх знаёмых

З „Нівай" № 28 ад 9 ліпеня гэтага года пазнаёміў я перш-наперш Любу Трусевіч з Нараўкі і Ніну Кічкалюк з Гарадзіска. Затым завёз я родны часопіс Валянціне Самойлік, Марыі Янель і Галіне Бірыцкай з Плянты, Марыі і Канстанціну Целушэцкім, Людміле і Барысу Казлоўскім, Эве Дзеніс, Вользе і Віталю Скепкам, Ірэне Казлоўскай, Валянціне і Аляксандру Ігнацюкам, Мікалаю Скепку, Міхалу Болбату, Зіне Садоўскай, Валянціне Рыгаровіч, Лідзіі Галубоўскай і Ніне Галубоўскай з Новага Ляўкова. 6 ліпеня г. г. новым чытачом „Нівы" стаў гмінны радны Анатоль Раманчук з Гушчэвіны. „Ніву" ён купіў у краме ГС у Нараўцы. У гэтым нумары ёсць цёплы сардэчны ўспамін пра праваслаўнага архіепіскапа Лодзінскага і Познаньскага доктара Сімана Раманчука (ён памёр 28 чэрвеня гэтага года ў Лодзі) аўтарства Яўгена Вапы, галоўнага рэдактара „Нівы" ды шэсць артыкулаў і дописаў з Нараўчанскай гміны Янкі Целушэцкага і Міры Лукшы. Дваццаць восьмы нумар роднай газеты гартала і чытала — як я палічыў — 26-30 чалавек. Некаторыя з іх пасля кароткага перапынку.

14 ліпеня гэтага года ад самой раніцы падаў дождж і я папрасіў лістаноша прывезці мне чатыры экземпляры „Нівы" № 29 ад 16 ліпеня г. г. з пошты ў Нараўцы. Ён прывёз і я ў той самы дзень занёс адзін экземпляр брату новаляўкоўцу Канстанціну Целушэцкаму (у 29 нумары „Нівы" ёсць мой допіс „Першыя пліскі" і здымак брата з пліскамі), другі экземпляр завёз у Плянту Галіне Бірыцкай, трэці атрымала Галіна Целушэцкая ды чацвёрты Вольга і Віталь Скепкі — жывуць яны на новаляўкоўскай калёніі.

16 ліпеня г. г. я прывёз з крамаў у Нараўцы восем экземпляраў „Нівы". Іх раздаў Крыстыне і Яну Грэсікам, Марыі Крышань, Раісе і Міхалу Баканачам, Любе Скепка, Зіне Сахарчук і Лідзіі Казлоўскай з Новага Ляўкова. Некаторыя з іх адразу шукалі гараскоп, вестак са сваёй гміны, аб'яў пра культурна-забаўляльныя мерапрыемствы ў Нараўчанскай гміне і нават пра тыя, якія ладзяць у Беластоку.

З Варшавы ў бацькоўскі дом у Новым Ляўкове прыехаў юрыст Павел Красноўскі і я яму запрапанаваў наш родны часопіс. Мне здаўна вядома, што ён — мой новаляўкоўскі сусед — чытае „Ніву" і летам прыходзіць да мяне і пытае пра нашу газету. Гэты нумар зацікавіў яго ўжо з першай старонкі артыкулам пад загалоўкам „Архіепіскап Сіман — адданы Богу, людзям і беларускасці" Аляксея Мароза. Спадар Павел з ім сябраваў. Яны — ураджэнцы тае самае гміны, сустракаліся ў Варшаве. Сябар „Нівы" П. Красноўскі прачытаў, між іншым, усе мае допісы, якія датычылі Нараўчанскай гміны. Ён мне сказаў, што ў Новым Ляўкове будзе чакаць новых нумароў роднага часопіса. Яму цікава іх пачытаць.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## «Вэртэп» без Чаромхі

Як штогод у летнім сезоне пачынае аб'езд па Гайнаўшчыне тэатр пантамімы «Вэртэп». Маршрут пачнецца 28 ліпеня са Старога Двара (над Семяноўскім вадаёмам), затым 29 ліпеня тэатр наведае Нарву, 30 ліпеня — Бельск-Падляшскі, а ў жніўні: 3 — Палічну, 4 — Дубічы-Царкоўныя, 5 — Орлю, 6 — Гайнаўку, 12 — Кляшчэлі і 13 жніўня — Белавежу. Артысты не наведаюць Чаромхі. Як прыпамінаю «Вэртэп» адно раз выступіў у Чаромсе. Апошнім часам чаромхаўская культура пражывае фінансавы крызіс. ГОК намагаецца забяспечыць лакальныя імпрэзы, прапісаныя ў календары культурных мерапрыемстваў на пастаянны тэрмін. Шмат грошай праглынае Міжнародны фестываль фолькавых сустрэч «З вясковага панадворка». А выступ тэатра «Вэртэп» каштуе. Затым, так кравец крае, як матэрыялу хапае, — кажуць у народзе. Аматарам тэатральных спектакляў рэкамендую 12 жніўня падацца ў суседнія Кляшчэлі. Турыстычная вандроўка нікому не пашкодзіць. **(УС)**



# Усе стравы ВЕРШАЛІНА

**Дзверы грыбаўскай царквы прарока Ільі адкрываюцца, на жаль, вельмі рэдка. Яшчэ некалькі гадоў таму здаралася гэта штомесяц і заўсёды на трэці дзень Пасхі.**

Цяпер, мабыць, толькі чатыры разы ў цэлым, доўгім годзе. Для мяне, якая дрэнна адчувае сябе ў якім-небудзь натоўпе, а з гадамі гэтае адчуванне толькі ўзмацняецца, грыбаўскія службы былі як мёд на сэрца. Тут глытала я чароўную гармонію людзей, каранямі неразрыўна звязаных з дзікай, пушчанскай прыродай і царквой славутага на ўвесь свет прарока. Ну і можна было паспяваць разам з матушкай Людмілай Клімук, ціха, не заглушваючы акордаў акружаючай царкву дзівоснай прыроды. Любіла я глядзець на іконы, якія неслі сюды прароку з аддаленых куткоў этнічныя беларусы, на прымітыўныя малюнкі святых, якія павольна аблазяць са сцен зачыненага на два абароты храма.

Вельмі забалела, калі я даведалася, што ні штомесячных, ні пасхальных службаў ужо няма. Повад — недастатковая колькасць прыхаджан. Не памагло заяўленне маёй кандыдатуры ў спісак рэгулярных удзельнікаў грыбаўскіх «месячніц».

За царкоўным календаром ад нейкага ўжо часу не сачу, таму калі б не тэлефон матушкі Людмілы прапусціла б я адзін з напрастольных святаў грыбаўскай царквы — летняга Івана. У такое месца на аўтамабілі ехаць нельга, а і гэты ад старасці апошнім часам зусім рассыпаўся. Зрабіла я сабе адзінокую пілігрымку на ровары, узяўшы на дарогу кусок недаедзенага за сняданкам пірага і ваду з жыдоўскага калодзежа.

Можна сказаць, маё паломніцтва абмежавалася менавіта да дарогі туды і назад.

На месцы, на жаль, народу як на любым фэсце. Лік бацюшкаў, пеўчых, усе прыгожыя, адзетыя ў найлепшае святочнае адзенне. А я, вядома, як гэта на ровары, у джынсах. Але не толькі вопраткай не ўпісалася я ў своеасаблівы клімат. Нягледзячы на гарачае запрашэнне матушкі да супольнага спеву, уцякла я з набітага пеўчымі кліраса, з цэлай павагай да іх вакальных умеласцей. Выбрала я запраектаваны найвялікшым грэшнікам прытвор, ззаду за людзьмі. Тут прынамсі былі добра бачны іх вопраткі і прычоскі, па якіх распазнавала я аўтахтонаў і выхадцаў — людзей так званага поспеху і прывязаных да працы на родных загонах. Заміняла я пару слоў з Іркай — жанчынай на некалькі гадоў старэйшай за мяне. Прыехала з мужыком, дзяцьмі, унукамі. Не саромеецца ні працы на гаспадарцы, ні роднай мовы. Цешыцца кожным пражытым днём, тым больш сённяшнім, калі можа купіць унукам адпустовыя лізуны і баранкі ў адзінага тут прадаўца. Ірка назаўсёды застанецца ў маёй памяці. Ніколі не забуду пірагоў з цынамонам, якія пяклі мы разам у дзяцінстве. Здаецца, гэта толькі пірагі, але колькі было ў гэтым сэрца і цеплыні.

З успамінаў прабудзіла мяне парушэнне — хрэсны ход, акружаючы царкву. І зноў іду некалькі метраў ззаду, адна, як мага далей ад гучнага спеву і людскіх вачэй.

На канец у сваёй пропаведзі адзін з бацюшкаў-сеніёраў сказаў, што прыйсці ў царкву гэта яшчэ не ўсё; асноўнае, што ты з гэтай царквы вынесеш. Я зразумела, што сказаў гэта спецыяльна да мяне.

І напэўна здзівіўся б той бацюшка, калі б даведаўся, колькі дабра я вынесла, прытым выключна духоўнага.

Пропаведзі, вядома, я не даслухала, пайшла на аддалены некалькі метраў ад царквы могільнік. Сядзеў там якраз, народжаны ў саракавых гадах, Міша Русэль — выхадзец з Грыбоўшчыны-Старой, адзеты ў элегантны бэжавы касцюм. Прозвішча ў яго сапраўды незвычайнае, нагадвае мне лонданскі Русэль Скуэ (сквер). Мішы гучыць яно па-французску. Ён майстар па апрацоўцы каменю. З гордасцю паказаў мне працу сваіх рук — помнікі дзядам Русэлям і Калішам. Новыя, каменныя сходы грыбаўскай царквы гэта таксама яго работа. Аказалася, што з Мішай у нас шмат супольнага, між іншым, у рэлігійным плане. Як кажа, трэба ў нешта верыць, хаця часта бывае гэта немагчымым.

Яго бацька сорак гадоў быў старастам грыбаўскай царквы. Сам адкрываў і зачыняў царкву, ключоў бацюшкам не аддаваў. Але добра ўспамінае бацюшку Мамчура. Меў ён сур'ёзныя праблемы з алкаголем, але добры, справядлівы і працавіты чалавек быў, кароў, свіней трымаў і з людзьмі ўмеў загаварыць.

Я падумала, што мне пашанцавала, таму што менавіта Мамчур хрысціў мяне ў непадалёкай вострaўскай царкве, якой філіялам з'яўляецца Грыбоўшчына.

— А як вы Ілью ўспрымалі? — выклікаю душу прарока.

— Добры чалавек быў, прадаў зямлю, царкву паставіў, з гліны і верасу, бо цагліны былі дарагія. Пакрыў дранкай.

Побач царквы стаяць яшчэ фундатарскія крыжы: каменны і драўляны — калісь вялікі, цяпер глыбока западаецца ў зямлю. Фундатарскі крыж знаходзіцца таксама ў цэнтры могільніка. Датыкаю рукой нечытэльнага ўжо надпісу, адчуваю дату 1930.

— Пойдзем, нешта табе пакажу, — прапануе Міша.

Некалькі метраў ад царквы ўказвае на камяні — фундамент парафіяльнага дома, склеп якога засыпалі смеццем. Побач скрыты ў кустах калодзеж, зусім незабяспечаны. Калі жыў яшчэ бацька Мішы, абгараджаў яго. Цяпер у любую хвіліну можа ён стаць месцам сапраўднай трагедыі.

— Ну і пасля, калі ў Ільі паявіліся грошы, улада, калі бабы пачалі цалаваць яго па руках, усё памянялася, — вяртаецца да тэмы.

— Ад гэтага рашучай большасці людзей у галовах мяшаецца, — тлумачу сабе. — Па-сучаснаму завуць такую з'яву канзумерызмам.

— Ілья фінансава падтрымліваў армію Пілсудскага, — распавядае Міша. — Грошы вёз у Саколку мяшкамі добрым як на тыя часы возам. Аднойчы мяшок выпаў з воза. Хтосьці, едучы ззаду, прыкмеціў, паведаміў пра згубу. Сумленнага знаходчыка Ілья шчодра гэтымі грашыма ўзнагародзіў.

— Столькі ж ікон яму назносілі, такой колькасці не было ні ў воднай царкве. І дзе гэта ўсё дзелася? — рытарычна пытае Міша. — Бачыш гэту ікону на акне? — паказвае абапертую спінкай да царкоўнага акна дошчачку ў белай гардыньцы. — Гэта Ілья.

Неадкладна праціскаюся праз натоўп, зусім незацікаўленая багаслужбай. На іконе распазнаю Іаана Кранштацкага. Праўду кажучы, Ілья быў выстылізаваны на Кранштацкага. Ведаў яго асабіста, больш таго, Кранштацкі даў яму грошы на пабудову гэтай царквы. Ікона падпісаная 1901 годам і неразборлівым прысвячэннем.

— Гэта копія, — умешваецца ў нашу размову мужчына ў карычневым касцюме. — У царкве ўсе іконы — копіі, арыгіналы бацюшка трымае ў хаце.

— А чаму Ілья канчаткова перадаў гэтую царкву католікам? — звяртаюся да Мішы, зусім ігнаруючы нерацыянальную заўвагу мужчыны ў карычневым.

— Таму, што надаелі яму праваслаўныя іерархі. Безупынна чапляліся, між іншым, да яго недастатковай адукацыі, — коратка тлумачыць Міша. — Уцёк саветам, але яго знайшлі. Напэўна застрэлілі і закапалі, толькі невядома ў якую яму.

Ад матушкі дастаю шчырае запрашэнне на святочную гарбату. Калі б не такі лік царкоўных саноўнікаў, якія таксама туды кіраваліся, напэўна з задавальненнем пакарысталася б запрашэннем, пасядзела б за сталом, пабяседавала б пра жыццё, якога так няшмат засталося.

Узамен на святочны абед выбрала я суніцу пры дарогах, вытаптаных прарокам і яго вернікамі.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Пярэдняя дамба супраць беларусаў

**працяг з 29 н-ра «Нівы»**

Фота Міхала ЛУКШЫ



**„Ze względu na zasadność"**

Чыноўнікі і саноўнікі перакідваліся паміж сабою паперамі, у якіх хтосьці даў ім права — айчына, партыя, вышэйшая ўстанова — раскідацца гектарамі зямлі і лёсамі людзей. Прытым кожны раз прынамсі паўстаронкі пісульні, папячатанай зверху і ўнізе ды пяпрэшчанага «неразборлівымі подпісамі» пад рознымі «z up.» «mgr inż.» «Z-ca", „Zezwalam" займае прыгаданне падставы таго, што неабходнымі з'яўляецца пабудова Семяноўскага вадасховішча і канала Нарва — Супрасль, каб забяспечыць вадой насельніцтва і прамысловасць Беластока, а пасля «актывізацыю» апошняга насельніцтва і прыхарошанне краявіду, які тут трымаўся стагоддзі, так каб прыцягнуць турыстаў.

24 сакавіка 1976 г. Ваяводская ўправа ў Беластоку, аддзел сельскай гаспадаркі, лясніцтва і скупкі інфармуе Ваяводскую ўправу сельскагаспадарчых інвестыцый, што дазваляе на экспрапрыяцыю сельскіх угоддзяў абшарам 3718 га разам з жыллёвымі і гаспадарчымі пабудовамі на тэрыторыі праектаванага вадасховішча і канала, якія прадбачаны для рэалізацыі ў 1977-1982 гадах.

Кудысьці трэба падзець людзей — у той час яшчэ досыць дзетныя сем'і, і старэчаў, якім запрапануецца рэнту і дом апекі. Ваяводская ўправа сельскагаспадарчых інвестыцый прадстаўляе напрамкавую праграму

«**асядленчай дзейнасці**».

Ва ўступе да яе даведваемся, апрача вядомай мантры пра забеспячэнне вадой Беластока, пра карысць з гэтага мерапрыемства ў навадненні загаспадараных лугоў і паш, «што можа быць здзейснена толькі ў выпадку пабудовы вадасховішча ў верхняй «злеўні». Тут яшчэ ёсць інфармацыя пра забеспячэнне 45 мільёнаў кубаметраў вады на патрэбы сельскіх угоддзяў паверхняй 31 тысячы гектараў у даліне верхняй Нарвы і Супраслі і аб'екту Багно-Візна. Яшчэ і пра забеспячэнне 17 мільёнаў кубаметраў вады для перспектывічных патрэб камунальнай гаспадаркі і прамысловасці гарадоў Беласток і Лапы. Даходзяць да гэтага павелічэнне «przepływów nieściekowych» на рэках Нарве і Супраслі з мэтай паляпшэння санітарнага стану гэтых рэк. І стварэнне ўмоў для развою адпачынкавых асяродкаў і водных спортаў для Беластоцкай прамысловай акругі (ёсць такая?) і горада Гайнаўкі. Плюс стварэнне магчымасці для вядзення рыбацкай гаспадаркі. І тлумачыцца, што ў сувязі з гэтым сілай, калі не выкажуцца пра дабравольнасць, мусяць быць экспрапрыяваны 289 гаспадарак (318 сем'яў), якія жывуць у «чашы» вадасховішча і ў яе непасрэдным суседстве, ды павінны быць тыя людзі пераселены.

Праведзена была анкета, на што будуць згодны беларускія сяляне, якім адымалася родная ад стагоддзяў зямля. Адразу пад пералікам адказаў на апытанне адзначаецца, што «інвестар не ў змозе задаволіць усе гэтыя разнародныя патрабаванні», і гатовы выканаць з усіх іх (перанос забудовы) толькі 26. Самі гатовы былі пабудавацца ў Міхалове 22 сем'і, 10 у Рыбаках, 1 у Юшкавым Грудзе, 15 — у Засцянках, 3 у Нараўцы, 21 у Семяноўцы, 10 у Новай Луцэ, 4 у Ляўкове, 1 у Іванках, 1 у Тарнопалі, 4 — у Гайнаўцы, 2 — у Гарадку. Каб забяспечыць будаўнічыя ўчасткі ўстанова звярнулася з патрабаваннем да гмінных упраў. Гмінныя ўправы мусілі даць месца для перасяленцаў. Гмінная ўправа ў Міхалове — для 33, у тым ліку ў Міхалове 22, у Рыбаках 10, у Юшкавым Грудзе 1 участак. Управа горада і гміны ў Супраслі — 15 участкаў, у Засцянках або Грабоўцы. Управа горада і гміны ў Гайнаўцы — 4 участкі. Управа гміны ў Нараўцы — 39 участкаў, у тым ліку ў Семяноўцы — 21, у Новай Луцэ — 10, у Ляўкове — 4, у Нараўцы — 3 участкі, у Тарнопалі — 1 участак. Гмінная ўправа ў Гарадку — 2 участкі, а Гмінная ўправа ў Нарве — 1 участак у Іванках. З апытанняў вынікала, што 181 сям'я свае гаспадаркі перадасць за рэнту або кампенсацыю і хоча атрымаць кватэру ў ваколіцах вадасховішча, у Беластоку (не быўшы членамі жыллёвага кааператыва), у Гайнаўцы, у Бельску-Падляшскім, Ляўкове, Васількаве, Супраслі. Усе жыхары — беларусы, якія размаўляюць на «ліцьвінскай» гаворцы, з рознымі адменамі («не пайду за рэчку замуж — там другая старана, бо ў нас гаворат вуон-вана, а ў іх гавораць «ён-яна»). Бывала, што калі апынуліся ў чужым месцы, сярод несваіх людзей, змаўкалі. Але ў час выбараў у самаўрады ці сейм галасавалі на сваіх, беларусаў, праваслаўных, асабліва калі кандыдат быў ім вядомы, «зарэчанскі», сваяк...

Інвестар звярнуўся да гмінных і гарадскіх устаноў, каб выдзеліў тэрыторыю для «заменнага будаўніцтва» і прысядзібныя ўчасткі, у жыллёвыя кааператывы, у ПГР у Міхалове (ён меў даць 31 кватэру). Сем'і, якія перададуць сваю гаспадарку за рэнту атрымаюць кватэры, якая будзе **ўласнасцю дзяржавы** на пажыццёвы перыяд. Іншыя сем'і маглі атрымаць уласную кватэру ў рамках кампенсацыі за будынкі і зямлю. Частка сялян — 19 сем'яў — надалей хацела гаспадарыць, у сувязі з гэтым надзяліліі ім заменныя гаспадаркі — у Новай Луцэ — 10, у Тарнопалі 1, у Цісоўцы — 1, на хутары Семяноўка 4, у ваколіцах Гайнаўкі — 1, у Бандарах — 1, у Лявонавічах — 1 гаспадарку. Толькі адна асоба рашылася пайсці ў Дом апекі ў Ялоўку.

«Цыкл дырэктывы» на ўсё інвестыцыйнае мерапрыемства «Вадасховішча Семяноўка канал Нарва — Супрасль» быў на 60 месяцаў. Планавалася пачаць работы ў 1977 г., а завяршыць у 1981 г. Пры прадпасылцы, што ў IV квартале 1980 года пачнецца напаўненне вадасховішча вадой. Пра канал гаворка заціхла. Хаця 18 кастрычніка 1978 г. інвестар з вуліцы Варынскага турбуе Гмінную ўправу ў Гарадку ў сувязі з тым, што жыхары вёскі Меляшкі, праз угоддзі якой мае прабівацца канал, не запоўнілі «дабравольных заяў на продаж грунту (38 штук)». Інвестыцыя мае нумар AS.42/II/III/I/75 (ад 16 ліпеня 1976 г.), і мусова даць «одпіс» «рашэння аб назначэнні месяца і ўмоў рэалізацыі інвестыцыі». А 18 кастрычніка 1978 г. інвестар піша патрабавальны ліст у Гмінную ўправу ў Міхалове, *wnosząc* на экспрапрыяцыю зямлі сялян пад «неабходную пабудову канала Нарва — Супрасль». Там мае быць «дабравольных заяў пра продаж грунту» штук 69. Гэта вёскі Цівашокі, Тайніца, Кухмы, Бандары, Рыбакі. З лістапада 1979 г. даведаюцца пра гэта вёскі Супруны-Калясное, Біндзюга, Плянты, Аднога, Баршчэва, Сушча, Цівашокі, Тайніца-Верхняя і Тайніца-Ніжняя.

**Дамба пярэдняя і бакавыя**

аддзяліліі вёскі залітыя ад тых, што засталіся на беразе былой ракі Нарвы. Пабор вады меў адбывацца на пярэднюю дамбу на 376,38 км плыву ракі Нарвы. Папаўняцца вадасховішча мела з вясенніх пераплываў. А браць з вадасховішча мелі 62 мільёны кубаметраў вады, у тым ліку 45 мільёнаў кубаметраў для сельскіх навадненняў лугоў у далінах ракі Нарвы і Супраслі, ды 17 мільёнаў для камунальных патрэб Беластока. Устаноўкамі рэгулюючымі працу вадасховішча Семяноўка маюць пярэдняя земляная дамба шырынёй 810 метраў, з шырынёй кароны 9 м. Карона грэблі над паднятым люстрам вады ў вадасховішчы 2 м, пры вышыні хвалі 1,85 м. Бакавая земляная дамба **Семяноўка** даўжыні 1950 м, з шырынёй кароны 3 м, з перапампоўняй 2480 літраў на секунду, якая захоўвае злеўню 380 га ды выраўнаўчы вадаём 3140 кубаметраў вады. Рэгуляваны тут цёк Падрэчка (адзін з прытокаў Нарвы, якіх назвы ўжо сціраюцца з памяці людзей) на даўжыні 11,13 км; на цёку пабудаваны 11 застаўак. Бакавая земляная дамба **Баб'я-Гара**, даўжынёй 820 м, з перапампоўняй, якая захоўвае злеўню паверхняй 200 га, з выраўнаўчым вадаёмам 2036 кубаметраў вады. Бакавая земляная дамба **Цісоўка**, даўжынёй 2280 м, з перапампоўняй, захоўваючай злеўню паверхняй 180 га. Бакавая земляная дамба **Бахуры**, даўжынёй 350 м з перапампоўняй, захоўваючай злеўню 500 га, з выраўнаўчым вадаёмам 2450 кубаметраў вады. Земляная бакавая дамба **Буды**, даўжынёй 1920 м, з перапампоўняй, ахоўваючай паверхню 112 га з выраўнаўчым вадаёмам 2036 кубаметраў вады. У рамках **рыбацкага** загаспадаравання мелі быць выкананы таксама рыбныя ставы агрэбляванай паверхні 42,5 га, падмацоўваныя з рэчкі **Луплянкі.**

**Залілі нас з галавой**

Размах быў вялікі. Урухомленыя вялікія сілы. Пераваліліі плёсы і лёсы. Вырвалі з каранямі. А ўжо 15 снежня 1991 г. было вядома, што згодна з артыкуламі (35 уст. 2, пкт. 1 закона з 25 красавіка 1985 г. аб гаспадарцы грунтамі і экспрапрыяцыі нерухомасці і распараджэннем Рады Міністраў ад 16.09.1985 г. аказалася, што вялікая частка нерухомасцей не была неабходнай для мерапрыемства і інвестар «перадаў іх у распараджэнне дзяржаўных арганізацыйных адзінак». А тыя сталі імі распараджацца, бясплатна, з момантам перадачы ім здаўча-прыёмнага пратакола з днём 30 снежня 1991 года. І так напрыклад Нараўчанская гміна стала ўласніцай участкаў № 918, 920, 923,925, 926, 927, 928, 930, 936, 940, 941, 942\1 і палову ўчастка 939, велічынёй кожны па ад 0,16-0,17 га ў Луцэ і Слабодцы. Ваяводская ўправа меліярацыі і водных установак выступіла за пагашэнне сваёй управы над гэтай зямлёй велічынёй 2335 гектараў, якія былі экспрапрыяваныя на патрэбы вадасховішча Семяноўка, а якія ляжаць цяпер па-за яго абсягам. Яны цяпер ВУМіВУ **zbędne.** 24 мая 1991 г. тое ж самае атрымалася з 14,74 га грунтоў у Тарнопалі... Засталіся палі, лугі, лес, дарогі гміннага карыстання. І сталі імі распараджацца. Паводле гміннага плана прасторавага добраўпарадкавання...

*(працяг будзе)*

**Міра ЛУКША**

# Будзе

## рэактывацыя чыгункі Бельск-Падляшскі — Гайнаўка

На пасяджэнні арлянскай Гміннай рады 30 чэрвеня г.г. войт Пётр Сэльвесюк паведаміў радных і солтысаў:

— Завершаны таргі на пабудову (рэактывацыю) чыгуначнай ліні з Ляўкоў у Гайнаўку. Меў я некалькі сустрэч на гэты конт. На тых сустрэчах далося выхадайнічаць чыгуначны прыпынак на той лініі ў межах вёскі Міклашы. Тым прыпынкам змогуць карыстацца асобы з інваліднасцю. Так што лінія павінна жыць. Спадзяюся, што людзі будуць карыстацца гэтай лініяй. Будзе гэта, верагодна, турыстычная лінія, зажартаваў войт. — таму солтыс будзе мог устанавіць на сваім панадворку стаянку для веласіпедаў і самаходаў.



З залы не раздаліся галасы захаплення. Гэтая лінія была закрыта ў 1995 годзе. Людзі адвыклі ад паездак цягнікамі. Заўважу, што здаўна няма ўжо ніякага аўтобуснага спалучэння Орлі з Гайнаўкай. А такое часам вельмі патрэбнае, бо некаторыя мясцовыя жыхары карыстаюцца дапамогай гайнаўскіх медкансультацый і шпіталя. Раней прыпынак называўся «Арлянка» і да яго ад Орлі было тры кіламетры і каля аднаго кіламетра са Шчытоў. Карысталіся ім таксама жыхары Крывой. Зараз лінія зарасла самасейным лесам, нехта на малых мастках прыбраў крыху сталі. Асталіся, мабыць, рэйкі. Лінія з Бельска ў Гайнаўку была пабудавана ў царскі час і на рэйках можна знайсці год іх вытворчасці — 1898 і 1915.

У мінулым многія карысталіся прыпынкам Арлянка, у тым і я, калі даязджаў у гайнаўскую школу і па іншых справах. Людзі тады палюбілі некалькікіламетровы шпацыр дарогай у полі. Зараз прыпынак у Міклашах здаецца ім нейкім чужым.

Міклашы — невялікая вёска (на канец 2016 года пражывала там 118 асоб), ціхая, спакойная, у якой жывуць пажылыя пераважна людзі. Пытаў я некаторых, у тым ліку і солтыса Пятра Корзуна, наконт прыпынку ў іх вёсцы. Яны згодна сцвярджаюць, што карыстацца чыгункай верагодна ўжо не будуць. Апасаюцца затое, што з чыгункі могуць завітаць, напрыклад на рэчку, нейкія чужыя людзі і стануць валачыцца па вёсцы.

Паводле майго меркавання ахвотных завітаць на рэчку Арлянку не будзе, бо яна забруджана выкідамі нечыстот з арлянскай ачышчальні сцёкаў і ніхто ўжо ў ёй не купаецца. Вада — паводле санэпідстанцыі — таксама непрыгодная для бытавання рыб. Але напэўна так здарыцца, што нейкія пасажыры заедуць у Міклашы ці будуць адпраўляцца з таго прыпынку. Вось маем час, калі людзі пачынаюць апасацца іншых людзей.

**Тэкст і фота Міхала МІНЦЭВІЧА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі






мал. Кляўдзіі Ніканчук

# Галодны чарадзей

За гарамі, за азёрамі, над рэчкай стаяў маленькі горад. У гэтым горадзе жыў чарадзей, які валодаў вялікай магіяй. Аднойчы ён захацеў жыць у Беларусі. Спачатку думаў, каб перасяліцца туды з дапамогай тэлепартацыі, але не спрацавала.

Тады чарадзей рашыў падацца ў далёкае падарожжа. Ён вандраваў некалькі дзён, аж дайшоў да дрымучага лесу. Чарадзей захапіўся пушчай, хацеў усё ў ёй пабачыць. У пэўны момант ён зразумеў, што заблудзіў. І блукаў сабе па лесе яшчэ два тыдні. Пасля, калі стомлены выйшаў з лесу, ён сказаў:

— Тут будзе мая хата!

Якраз побач бегла тоўстая свіння. Чарадзей быў галодны і з'еў свінню сырой. Пасля шмат дзён ляжаў пад дубам. Калі ўжо адлежаўся, ён рашыў выканаць сваю задачу. Ды раптам ён зразумеў, што яму не трэба ўжо ісці, што ён у Беларусі.

Ён паставіў вялікі дом, пазначыў яго беларускі сцягам, доўга жыў і чараваў.

Гэтая гісторыя вучыць нас, каб мы здзяйснялі свае мары.

**Віктар ЛІНК,**
«(не) Тоўстая газета»,
КШ № 1 у Гайнаўцы

# Гэта не быў маленькі дождж, які часта падае ў Лондане...



На небе стаялі цёмныя хмары, дуў моцны вецер, але мы не здаліся, адправіліся ў дарогу. Селі на воз і паехалі трактарам у Міхнаўку з візітам да народнай паэткі Веры Радзіванюк.

Каб сагрэць душу, у дарозе мы весела спявалі. Раптам пачаў крапіць дождж. І гэта не быў маленькі дожджык, які часта падае ў Лондане. Гэта была вялікая бура са сваімі сябрамі: градам, маланкамі, грамамі. Стаў працякаць цыратовы дах нашага дыліжанса. Мы хутка прыдумалі, каб выняць пледы з-пад нашых шаноўных задніц і прыкрыць імі галовы.

Так мы наблізіліся да мэты падарожжа...

Убачылі хату ў кветках спадарыні Веры Радзіванюк. Яна прыняла нас вельмі сардэчна. Мы селі выгадна ў цёплай хаце з душой. Ужо ведалі, што ніякая непрадбачаная сітуацыя не здарыцца. Мы спакойна слухалі вершы, ставілі пытанні, чыталі свае вершы. А за акном далей шпарыў дождж...

Так мінула паўтары гадзіны. Мы развіталіся ў дажджы, але ён не думаў спыніцца...

У паваротнай дарозе зноў накрыліся пледамі і спявалі. І хоць рабілі ўсё, што магчымае, прамоклі да сухой ніткі. На шчасце хутка была вячэра і гарачыя дранікі.

**Караліна КАРАВАЙ**,
«Белы слон», Гімназія ў Нараўцы.

## УВАГА КОНКУРС! № 30-17

**Мае колы — ды не паравоз.**
**Мае стужку, але не матрос.**
**Музыкай частуе ён**
**А завуць...**
**М......фон**
**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 30 ліпеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 25-17: чарвяк. Узнагароду, CD з беларускай музыкай, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Я закаханы ў фальклор Беласточчыны!

*Гутарка-інтэрв'ю з мастаком **Міраславам Здрайкоўскім**, госцем XXXI Сустрэч «Зоркі».*


Фота Ганны Кандрацюк

**«(не) Тоўстая газета»:** — *Калі першы раз Вы адчулі сябе мастаком?*

**Міраслаў Здрайкоўскі:** — Пах мастацкага свету я пачуў, калі здаваў экзамены на акадэмію ў Кракаве. Тады я яшчэ не адчуваў сябе мастаком. Экзамену не здаў. Адчуў гэта, калі пачаў вучобу ў Мінску, у Акадэміі мастацтва. На гэта мела ўплыў атмасфера і магчымасць прымаць актыўны ўдзел у жыцці гэтай школы. Але сапраўдным мастаком я адчуў сябе, калі меў сваю першую выстаўку («Вандроўкі малыя і вялікія»). Гэта было даўно, калі мой сын Мікалай быў яшчэ маленькі.

**(не) ТГ:** — *Чаму Вы выкарыстоўваеце элементы фальклору Беласточчыны ў сваіх творах?*

**МЗ:** — Я ў фальклор закаханы! І шкада, што так мала ён выкарыстоўваецца. Думаю, што кожны мужчына і жанчына павінны мець хоць адну вышываную кашулю ў шафе.

**(не) ТГ:** — *Адчуваеце, што наш народ старажытны, з багатай гісторыяй?*

**МЗ:** — Вядома, гарадзішча ў Гацьках мае не сто і не пяцьсот гадоў, яно намнога старэйшае. Гэта тры тысячы гадоў гісторыі нашых продкаў. Беларуская інтэлігенцыя заўсёды праследавалася і не меў хто перадаць нашай гісторыі. Мы мусім самі да яе дакапацца.

**(не) ТГ:** — *Ці бачыце запатрабаванне людзей на Вашы творы?*

**МЗ:** — Цяпер гэта відаць, прынамсі сярод старых сяброў. А як будзе далей, ці пацікавяцца людзі з-па-за нашага рэгіёна, не ведаю. Але на кашулькі з народным арнаментам запатрабаванне заўсёды ёсць і яно даволі вялікае.



**(не) ТГ:** — *Ці, паводле Вас, этнаграфія жывая?*

**МЗ:** — Яна атрымала другое жыццё. У часы нашых бацькоў сорамна было хадзіць у вышыванках, ці павесіць ручнік у хаце. Цяпер людзі да гэтага вяртаюцца. Ручнікі служаць аздобай хаты.

**(не) ТГ:** — *Ці Вы думаеце, што Вашы дзеці будуць працягваць Вашы зацікаўленні, ці яны будуць актыўнымі ў мастацкім плане ?*

**МЗ:** — Гэта цяжкі кавалак хлеба. Усё ідзе цяжка, але пры тым ёсць вялікая задаволенасць. Не кожны гэта любіць. Ці будуць працягваць — іх справа, я іх не прымушаю.

**(не) ТГ:** — *Цяпер пытанне да Вашага сына. Міколка, як Ты ўспрымаеш творчасць бацькі?*

**Мікола Здрайкоўскі:** — Мне вельмі яна падабаецца. Я вельмі рады, калі бачу бацькавы выстаўкі. Я гэтым ганаруся!

**(не) ТГ:** — *Вы прыдумалі ўзор на кашулькі «Зоркі». Ці можна чакаць новага дызайну?*

**МЗ:** — Пэўна, што так. Праектаў пакуль яшчэ не маю. Але думаю, што вы мяне падштурхнулі, натхнілі і нешта атрымаецца.

**(не) ТГ:** — *Дзякуем за размову!*

Апрацаваў **Максім ФІЁНІК**

---

Магда Люнда,
«(не) Тоўстая газета»,
КШ № 1 у Гайнаўцы

## Кветкі

Растуць у садочку
Каляровыя кветкі.
Розныя колеры
аздабляюць траву.
Калі сонца прыгрэе,
Растуць яны хутка.
Так бывае!
Прыгожыя, пахучыя,
чароўныя.
Сваім выглядам і пахам
Упрыгожваюць зямлю.

---

## Польска-беларуская крыжаванка № 30-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 26-17:**

Мак, міф, вера, тата, Іран, забава, газета, яд, фін, дата, кніга, жрэц. Гіт, гімн, фазан, таз, абед, атам, віват, мера, акр, ара, канадзец.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Вікторыя Гаць** і **Дам'ян Карнілюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

Rosół
Miód
Torebka
Czoło
Mag
Sum
Szansa
Wzlot
Chór
Rosa
Kożuch
Poziomki
Sam
Sok
Słodycze
Jaś
Most
Słońce
Ton
To
Wio
Smaki
Nos
Horyzont



Міхась АНДРАСЮК

# Лавачка (ч.4)

Кладу запальнічку побач з папяросамі, дзед працягвае руку, запальнічка саслізгвае ў траву. Схіляемся адначасова я і ён, перабіраем пальцамі зялёныя струны травы і раптам мая далоня налятае на яго далоню і — складваецца ўражанне — пралятае праз яе, як праз халоднае паветра. Зрываюся на ногі, раблю крок назад.

Дзед робіць выгляд, што нічога не здарылася, разглядае запальнічку, націскае заднаго канца і з другога, шукае, як дастаць з яе патрэбны сабе агонь. А мо ён сапраўды толькі паветра і нічога больш? Мой асабісты міраж, эскіз накрэслены аповедамі бабы Веры, вынесены да чалавечай постаці святлом месячнай поўні?

Але ж стаіць побач, бачу твар і чую голас, а сабраўшы найвялікшую армію свету, неабходную для перамогі над сабой, магу адным дотыкам адказаць на ўсе свае пытанні.

— А я „беламоры” ў саракавым бачыў. Мы круцілі козы ножкі з газеты і махоркі, і вартаўнікі круцілі, але часам, пры нагодзе якіхсьці святаў — рэвалюцыяў, ці першамаяў — не разбіраюся я ў гэтых чырвоных датах, вартаўнікі курылі сапраўдныя папяросы.

— Можа які святочны дэпутат ім давалі «беламорамі»?

— Мабыць. Нас не частавалі. Пах ішоў ад гэтых папяросаў — аж кішкі скручваліся! Бачыш ты, колькі часу прайшло, думаў, не давядзецца ўжо і панюхаць, а тут такая неспадзяванка, — дзед прыкурвае, зацягваецца, цераз складзеныя ў трубку вусны, шпарка выдзімае дым вузенькай стужкай. Цягне яшчэ раз, вусны шчыльна зашпільваюцца і цяпер дымок выходзіць праз нос дзьвюма стужкамі. Тытунёвы пах спакушвае і рука лезе ў кішэню.

— Закуру і я, складу кампанію.

Дзед іранічным позіркам абнюхвае мой худзенькі „палмэл”.

— Саломіна, штук тры запар трэба скурыць, каб накурыцца, ці не так?

— Бывае, асабліва раніцой. А „беламоры” як? Я, як зацягнуўся першы раз, думаў — вочы вылезуць наверх. Як сёння памятаю.

— Ну, нічога сабе, моцныя і пах знаёмы, хаця спадзяваўся на іншы смак. Калі нешта сабе семдзесят гадоў уяўляеш, цяжка дагнаць спадзяванні, — папальвае, прыжмурыўшы вочы, вусны шырока закругляюцца, высоўваюцца асцярожна наперад, нязначна звужаюцца і дым выходзіць лянівымі, хісткімі абаранкамі. Ветрык, які дагэтуль марудна таптаўся ў галінах кустоўя, забраўся спаць на закінутае ў стадолах сена і дымкі кружаць над галовамі — мой цыгарэтны, светласіні сплятаецца з ягоным цёмна-шэрым, папяросавым.

— Саветы ўзялі мяне за Урал вугаль даставаць з-пад зямлі. Зімой, у пачатку саракавога забралі, — дзед пасылае цёмна-шэрую абаранку насустрач мінуўшчыне, што сыходзіць з вяршыняў далёкіх гор і сунецца да нас, кіруючыся ліхтаром месячнай поўні.

— Я ведаю, баба Вера распавядала вельмі шмат, быццам бы ўсе гэтыя гады жыла за вас дваіх. Усіх, хто не хацеў у калгас, куды-та пасылалі. Няўтульна пушчанскаму чалавеку сядзець пад зямлёй, праўда? — пытаю і гляджу на дзеда, чакаю, аж кіўне галавой, падтакне.

— Канешне, хацелася неба над галавой і зялёнай травы пад нагамі. І ветру, што пераклікаецца з дрэвамі не хапала. Але няма ў мяне злосці да саветаў. Зрэшты і так уцёк ім, калі ў сорак першым немцы заварушыліся. А ў сорак чацвёртым за кусок сала і літроўку самагонкі далі мне вось гэтыя боты. Саветам была радасць на адзін дзень, а мне на ўсе гады, — закідвае нагу на нагу, стрэсвае пылок з высокіх халяваў.

— Добра трымаюцца. І блішчаць, як наваксаваныя. — Чым націраеш?

— Ёсць спосабы. У пахмурную ноч сядаеш на месячны камень, ногі апускаеш уніз, у самае густое нутро хмурын, а яны ідуць і чысцяць, ці — на зімнай, вочы навочы ў іх, ды насыпаюць у ботах… нат самыя глыбокія шрамы, і вяртаюць зухаватую пруткасць стаптаным абцасам. Чакаеш, калі за чорнымі хмурынамі прыйдуць белыя воблакі — яны ж заўсёды прыходзяць — воблакі плывуць і пёрыстымі шмоткамі глянцуюць халявы і запяткі, і наводзяць бляск наскам.

Цмяны аганёк „беламора” даходзіць да гільзы і згасае. Дзед вагаецца, бачу, як у нямой спрэчцы самі з сабой падрыгваюць пальцы.

— А, было не было, — далоня растуляецца і кароткім жэстам стаўляе ў паветры знак згоды. — Давай яшчэ адну, хто ведае, калі зноў будзе аказія.

Націскаю язычок запальнічкі, дзед падымаецца з лавачкі, схіляе галаву да агеньчыка. Ахінаю агеньчык далонямі, чую, як мезенец, адстаўшы ад астатніх пальцаў, кончыкам ногця датыкае ягонай далоні. Прытаіўшыся за бяспечным панцырам керацiна, падушачка мезенца застывае ў нерухомасці, чакае, што адбудзецца далей. Кончык „беламора” разгараецца да яркай чырвані, згасае агеньчык запальнічкі, дзед вяртаецца на лавачку. Зацiскаю запальнічку ў далоні, мезенец трымае яе ў згоднай кампаніі з астатнімі пальцамі і ў нічым ад іх не адрозніваецца.

— Зводзіць рахункі — дарэмная страта часу. Яны ніколі не зводзяцца да нуля, на тым баку, ці на другім заўсёды штосьці застаецца. А цяпер — неба ў мяне, хоць адбаўляй, а зямля тая, дзе яна? — праз пальцы, сплецены ў сетку, глядзіць на месяц. — Вось, калі б даць чалавеку такую залатую сетку, ён бы пацягнуў з вады ўсіх мянтузоў. Усіх да апошняга. І ўсіх зайцоў з лесу разам з грыбамі. І нават гэты месяц у поўні, што ўсім жывым асвятляе шлях да ўсіх, хто жыў, і да тых, хто будзе жыць, нат яго б пацягнуў да сябе. Паклаў бы той месяц у кладоўку на самую цёмную паліцу і хай ляжыць. Сёння лішні, а раптам спатрэбіцца?

Глядзіць на мяне і ўсміхаецца. Чырванею, апускаю вочы. Мог жа я здагадацца, што яму, хто ўмее чытаць словы ператвораныя ў попел, чытаць думкі — прасцей не бывае. Жоўтая, размаляваная месяцам далоня завісае перад маімі вачыма.

— На, дакраніся. Табе ж хочацца. І ведаць цікава — цёплыя далоні, ці халодныя?

Як слімак высоўваюся з сябе, асцярожна прапаўзяю нябачны парог страху. Хутка, на адзін міг датыкаюся да дзедавай далоні, забіраю пальцы, хаваюся ў бяспечнай шкарлупіне. Ізноў высоўваюся, і паўзу, прытрымліваю пальцы даўжэй. І яшчэ раз, і яшчэ, аж замазваецца ў памяці вобраз далоняў бабы Марыі, і ўсе астатнія далоні, што адыйшлі ў бездань, не паціснутыя далонямі тых, хто застаецца.

Мая далоня застаецца на ягонай далоні. Ляжыць, заслуханая ў ціш вакуума, што напаўняе ягоныя жылы. Набліжаю твар да чорнага пінжака і чую на шчоках мяккае сукно. Дзедаў пінжак пахне чэрвеньскім язмінам. Тым язмінам, што некалі стаяў тут побач з лавачкай, прытуліўшыся да пня старой ліпы і цеслі, пакуль пачалі будаваць наш новы дом, вырубілі іх у адзін дзень, адным махам.

— І як?

— Цёплая.

Бачу, як маленькія, свавольныя птушкі злятаюць з дзедавых вачэй, казытаюць вусны пуховымі пёркамі і куточкі вуснаў падымаюцца ў хлапечай усмешцы. А птушкі кружаць, набліжаюцца і чую гэтыя пёркі на сваіх вуснах. Усміхаюся.

— Цёплая, кажаш. Цёплая, бо ты перамог свой страх. Ён быў, трымаў цябе, аваладваў, выкручваў твае рукі, але ты яго перамог. Каму страшна на сваёй зямлі, той і пры вогнішчы ў роднай хаце замерзне на камень. Хто перамажа страх, таго і прыдарожны камень абагрэе. Не з кніжак, з жыццёвага досведу цытата, калі б ты хацеў ведаць, — падказвае. — А цяпер ідзі, праз вёску прагуляйся, правер, ці ўсё стаіць на сваім месцы. У другі канец схадзі, на Даліну, у Мелянін. Выручы старога, на тое ты ёсць — падморгвае, спаглядаючы з-пад брыля на мае сівыя валасы. — А мне адну „беламорыну” пакінь. Узяў бы пачак, але з сабой нельга.

Адыходжуся на крокаў дваццаць, калі чую за спіной: — Ад Палічнай хмара ідзе, неўзабаве заслоніць месяц. А ты цемры не бойся, па сваіх слядах хадзіць можна хоць з заплюшчанымі вачыма.

Мінаю па дарозе мёртвыя вулічныя лямпы і пачынаю разумець, чаму тым, хто ноччу абыходзіць вёску з канца ў канец, не прапусціўшы ні аднаго двара, ні задворка, ні саду, святло лішняе. Доўга пісаліся папілярныя лініі вясковай бруканкі, а камяні, людскімі ступнямі забітыя ў зямлю, яны як цвёрдыя брыльянты і не сцерці іх коламі машын, не прыкрыць чорным асфальтам.

Запускаюся на Даліну, зазіраю ў Мелянін. За Мелянінам вуліца заканчваецца. Уліваецца ў дарогу, што праз лес, зігзагам кіруе ў вялікія гарады, туды, дзе святло на вуліцах не згасае ні ў дзесяць гадзін вечара, ні апоўначы.

На дарозе ў горад, зараз за Мелянінам, густой сцяной бэзу стаіць мяжа нашага рэвіру. Далей мне хадзіць не трэба. Вяртаюся. Бачу, як на разараны выган неба выплывае статак белых воблакаў. Наперадзе крочыць пастушок і, задзёршы галаву, доўгім кійком пабразгівае па званочках зор. Пад ногі глядзі! — хочацца закрычаць, але ўжо позна. Босая ножка пастушка зачапілася за медзяны саган, у якім добрыя анёлы вараць атрамант для ўсіх малышоў, што ў дзяцінстве, з-за памылак дарослых не змаглі сходзіць у школу. Саган перакуліўся на бок, атрамант ліецца на воблакі і на дрэвы, на дахі дамоў і на асфальт вуліцы. Паглыбляюся ў атрамантавую ноч — па пояс, па шыю. Цяпер я — усяго толькі атрамантавая пляма і нічога больш. Іду туды, дзе ў непранікнёнай цемры на дубовай дошцы лавачкі паблісквае месячны пыл. Побач на пяску бялее акурак „беламора”, падымаю яго, зацiскаю ў далоні. Яшчэ цёплы.

# Лапы побач Беластока

Колькі разоў праязджаў я цераз чыгуначную станцыю Лапы, але выглянуць навонкі тае станцыі не было якойсь нагоды. Часам-часам перасядаўся там з поезда на аўтобус або наадварот. І вось ёсць нагода — парафіяльнае свята Пятра і Паўла...

Спадзяваўся я, што на свята з'явяцца ў тамашні касцёл і яго наваколле натоўпы вернікаў. Але ж вялікае было маё расчараванне, калі тых натоўпаў ні перад касцёлам, ні ўсярэдзіне яго не аказалася. Стаў я нават падазраваць, што не ў адпаведны момант з'явіўся там. Але ж перад касцёлам драмалі адно тры ларкі з фэставымі прапановамі для наймалодшых; у касцельных лавах рэдкія душы.



Царская вадакачка



Сёлетняе свята выпала пасярэдзіне тыдня, у чацвер — дзень рабочы і канікульны. Можа ў гэтым выпадку істотным аказаўся той рабочы дзень. Бо ж па дарозе з вакзала ў касцёл кінуўся мне ў вочы нетыповы лозунг на перакладзіне крыжа ў канцы пешаходнага віядука: „Bóg, praca, ojczyzna" заміж традыцыйнага „Bóg, honor, ojczyzna". Ну, здаецца, гонару ў гэтай нашай Найяснейшай стала ў апошні час быццам значна менш, затое праца ў старым-новым капіталізме стала асацыявацца не толькі з запаветам пасля выгнання з Раю — здабываць хлеб у поце чала. А ў Лапах, здаецца, праца цяпер асабліва каштоўная і той трэці ці чацвёрты запавет з Дзесяці запаведзяў неяк сам па сабе набывае важнасць.

У Лапах у выніку апошніх грамадскіх трансфармацый перасталі працаваць два вялікія прадпрыемствы: цукровы завод і чыгуначная майстэрня. Асабліва апошні суб'ект можна лічыць знакавым для Лап, бо ж горад зрадзіўся з Варшаўска-Пецярбургскай чыгункі. У наваколлі былі рассеяны невялічкія засценкі, якім чыгунка „прывезла" новы горад; стары быў у недалёкім Суражы. *Слоўнік Каралеўства Польскага*: „W 12 osadach o wspólnej nazwie Łapy było 1775 r. 189 właścicieli, a z tego 186 samych Łapińskich".

Пачалося з царскага ўказа: „По высочайшему Государя Императора повелению в настоящем году имеет быть начато сооружение Санкт-Петербургско-Варшавской железной дороги. С.-Петербург. 31 генваря 1852 г.". Тадышні імператар Мікалай І патрабаваў, каб чыгуначныя лініі паміж большымі гарадамі пракладвалі па прамой лініі; так пайшло з Беластока ў Варшаву. А з Пецярбурга ў Беласток лінія ішла цераз Пскоў, Дзвінск, Вільню, Гародню. Рух на апошнім здадзеным у карыстанне адрэзку лініі, паміж Вільняй, а дакладней падвіленскім Ляндваровам, і Варшавай быў адкрыты ў канцы снежня 1862 года.

Чыгуначная лінія гэта не толькі шпалы і рэйкі, гэта таксама ўся інфраструктура: тут і лініі сувязі, і майстэрні для рамонту чыгуначнага транспарту. Адно з найбуйнейшых паравозных дэпо было пастаўлена менавіта ў Лапах, якое мела ў сваім распараджэнні 24 паравозы, столькі ж што і такое ж дэпо ў тадышняй сталіцы Пецярбургу; Пскоў меў 20, Вільня 28 паравозаў. У 1865 годзе на станцыі ў Лапах устанаўліваюць першы ў Расійскай Імперыі кран для падачы вугалю на паравозы; да гэтай пары вугаль грузілі ручнымі кошамі...

Чаму такое вялікае прадпрыемства, як паравознае дэпо, памясцілі менавіта ў Лапах? А не ў Гародні ці Беластоку? Варшаўска-Пецярбургскую чыгунку будавалі французскія спецыялісты, якія займалі там высокія пасады; сярод іх апынулася шмат палякаў, якіх бацькі эмігравалі ў Францыю пасля Лістападаўскага паўстання. І яны, палякі, былі прасякнуты тым жа самім духам, што і іх продкі — жаданнем вызвалення ад царскага панавання. А чыгунка была не толькі транспартным сродкам тавараў і пасажыраў — яна магла паслужыць і сродкам перамяшчэння не толькі баявых сіл, але і сродкам перамяшчэння агітацыйнай інфармацыі. Будова вялікай станцыі ў Лапах мела за мэту стварыць такі магутны незалежніцкі цэнтр у пэўнай законспіраванасці, здалёк ад царскіх адміністрацыйных цэнтраў і вайсковых гарнізонаў...

Вось у Беластоку і Лапах дзейнічаў адзін з віднейшых зачынальнікаў Студзеньскага паўстання Браніслаў Шварцэ, які, магчыма, мог быць выдаўцом „Гутаркі старога дзеда". Ды не толькі ён — ягоныя таварышы працавалі ў кіраўніцтве чыгункі. Сам Шварцэ не дачакаў удзелу ў паўстанні — быў арыштаваны раней і 29 гадоў правёў у ссылках. Там спаткаў ён маладога Юзафа Пісудскага, якому стаў духовым настаўнікам. А паўстанне развівалася галоўным чынам вакол менавіта Варшаўска-Пецярбургскай чыгункі...

Пасля задушэння паўстання царскія ўлады пачалі насаджаць на чыгуначныя пасады расейцаў, у тым ліку і ў Лапах. І па ўсіх станцыях на польскай тэрыторыі. Для іх узводзіліся цэрквы на большых станцыях, так як і для войска ў большых гарнізонах. Такая царква была ўзведзена і ў Лапах у 1906 годзе, побач чыгункі; яе заступнікам быў названы святы Мікалай. Прыход ахопліваў чыгуначных вернікаў, што працавалі на лініі аж пад самую Варшаву...

У 1893 годзе з Лап адкрываецца новая чыгуначная лінія — у Астралэнку. Вакол буйнеючай чыгуначнай станцыі пасяляюцца працаўнікі, шмат якіх з суседніх каталіцкіх мясцовасцей. Найбліжэйшы касцёл у адлеглай за чатыры кіламетры Плонцы, у якую з Лап няма прыстойнай дарогі; частка лапскіх засценкаў належала да гэтай парафіі, частка да парафіі ў Пасвентным. Наспявае патрэба ўсталявання ў Лапах і месца каталіцкага культу. З гэтым ёсць клопат, бо царскія ўлады, асабліва пасля Студзеньскага паўстання, закрываюць шмат касцёлаў на той тэрыторыі, дзе паўстанне атрымала актыўную падтрымку, а атрымаць дазвол на ўзвядзенне новых шансы мізэрныя. Думаюць людзі, як перахітрыць царскіх чыноўнікаў і паяўляецца ідэя выступіць з просьбай пабудаваць у Лапах каталіцкую капліцу ў гонар пануючага роду Раманавых.

Капліцу пабудавалі ў 1906 годзе, як філіяльную парафіі ў Плонцы. У 1912 годзе Лапы становяцца самастойнай парафіяй і выспявае рашэнне пабудовы парафіяльнага касцёла. У 1914 годзе ўспыхвае Першая сусветная вайна... Парафіяльны партал: „Wojna toczyła się na zachodzie przez cały rok. W miesiącu sierpniu burza wojenna przeszła przez Łapy i potoczyła się dalej na wschód, do Rosji, aby tam po paru latach skończyć się katastrofalnie dla obu wojujących stron tj. dla Rosji i Niemiec. W 1918 wojna europejska kończy się rewolucją w Niemczech i jeszcze większą rewolucją w Rosji, gdzie następuje przewrót polityczny i rzeź wzajemna. Wywrotowe hasła rzucane w bezkrytyczne i ciemne masy narodu rosyjskiego, uciskanego dotąd przez caratyzm, obudzają najniższe instynkty tłumów, które z dzikim i wyuzdanym okrucieństwem mordują prawie całą inteligencję rosyjską, niszczą i rozgrabiają mienie bogatych, rozstrzeliwują setki niewinnych i bezbronnych osób, burząc doszczętnie stary porządek. Ginie zamordowany car Mikołaj II wraz z całą rodziną. Giną miliony moskali opanowanych przez żydostwo i agitatorów komunistycznych. Do głosu dochodzi partia „bolszewików", która bierze władzę w swoje ręce i dopełnia miary zbrodni i zniszczenia. Z chaosu krwi, łez i błota wyłoniła się nowa Rosja, bolszewicka, komunistyczna, bezbożna jeszcze bardziej groźna od carskiej, która w myśl programu żydowskiego postanawia rozpalić pożogę rewolucji na całym świecie".

Царкоўныя прыхаджане пакідаюць Лапы, царква астаецца са жменькай вернікаў; астаюцца таксама на заходняй акраіне мясцовасці праваслаўныя могілкі, на якіх хавалі таксама і пратэстантаў — усіх тых, што прыехалі і з адлеглага Усходу, і з адлеглага Захаду будаваць тут падваліны новай чыгуначнай станцыі. А новыя пасляваенныя ўлады закрываюць царкву. У Лапах паяўляецца думка зладзіць у апусцелым царкоўным будынку касцёл, але парафіяне не хочуць маліцца ў касцёле, перарobленым з царквы; рашаюць будаваць новы касцёл. Усё ж такі перароблены з царквы, бо ўлады рашаюць знесці царкву, а матэрыял ад яе выкарыстаць для ўзвядзення касцельных муроў; сталася гэта ў 1920 годзе. У верасні 1927 года касцёл быў урачыста пасвенчаны ломжынскім біскупам...



Цяперашняя вадакачка

Варта слоў пару прысвяціць аўтару архітэктурнага вобліку лапскага касцёла Казіміру Скурэвічу. Выпускнік пецярбургскага інжынернага інстытута, да Першай сусветнай вайны працаваў у Баку, ствараючы там знакавыя для горада будынкі, у якіх зараз, для прыкладу, маюць сядзібы Мінфін Азербайджана і дзяржаўная пракуратура. Быў ён таксама ў ліку стваральнікаў самага знакавага для горада прыбярэжнага бульвара. Не прападаў ён за моднымі плынямі, але стараўся свае праекты ўкампанаваць у існуючае архітэктурнае асяроддзе. Пасля вяртання ў Польшчу таксама ўносіць свой уклад у архітэктурны воблік краіны — яго аўтарства знакавы для дзяржавы будынак Сейма. І дварок у Сулеюўку, дзе пажываў згаданы раней Юзаф Пілсудскі...

У Лапах жа ў першую чаргу паказваюцца будынкі згаданага касцёла і воданапорнай вежы. Апошняя таксама мае сваё няпростае мінулае. Вадакачка была пабудавана яшчэ ў царскі час; мураваная ў пачатку ХХ стагоддзя. Але ў час Другой сусветнай вайны, як неабходны для забеспячэння паравозаў у ваду аб'ект, была яна ўзарвана адступаючымі немцамі. Цяперашняя вадакачка была адбудавана пасля вайны — магчыма, што з выкарыстаннем таго матэрыялу, які астаўся ад разбуранай папярэдніцы. І будынак першапачатковага вакзала таксама не астаўся. Пастаўленыя на іх месцы будынкі былі адбудаваны без тых архітэктурных дэталяў, якімі чыгуначныя збудаванні аздаблялі ў царскі час.

Горадам Лапы сталі з пачаткам 1925 года. У 1954 годзе Лапы сталі павятовым цэнтрам — да адміністрацыйнай рэформы ў 1975 годзе. Чарговая адміністрацыйная рэформа, у 1999 годзе, не ўключыла Лап у паветовы ранг...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Засталіся адно ўспаміны (12)

Вітава, як і Арэшкава, лічылася адной з лепшых вёсак па колькасці гледачоў. Таму штомесяц я ставіў сяло Вітава ў маршрут. Толькі ў зімовы час, калі немагчыма было дабрацца, абміналі. Кінасеансы ставілі ў школе. У мяне было шмат знаёмых з Вітава, з якімі штодзень даязджаў я на працу ў Гайнаўку ў 1959-1962 гадах, дзе працаваў інструктарам БГКТ, затым у Гарадской радзе нарадовай. Па сённяшні дзень захаваліся ў памяці Віктар Іванюк, Васіль Маркоўскі, Юзік Дэркоўскі (з Доўгага Броду), Янка Мацкевіч, які працаваў на Хімічнай фабрыцы, як не памыляюся — у лабараторыі, яго сястра Лідка, Валодзя Іванюк, Васіль Скепка ды іншыя. Калі я ўпершыню ў лістападзе 1962 года заехаў з кінаперасоўкай, дык не было праблемы з ладжаннем новых кантактаў. Гэтых чатырох мужыкоў сталі пастаяннымі «кінаманамі». З Васілём Скепкам я крыху працаваў у Гарадской радзе, дык ядналі нас таксама дружалюбныя адносіны. Толькі з Янкам Мацкевічам і з сястрыцай Лідкай сустракаліся пры нагодзе, паколькі яны пражывалі ў Гайнаўцы. Да гэтай кампаніі далучыў Вадзім Федарук, швагер Віктара Іванюка. Жыў непадалёк школы. Быў кавалерам. У першы дзень нашага знаёмства запрасіў мяне на начлег (прыпалі сабе па душы). Шафёра, Валодзю Скепка, забіраў на начлег сваяк, як не памыляюся Мікалай Сакоўскі, а кінамеханіка Аліка — Яўген Пух (жонка Галіна працавала ў манапольнай краме ў Гайнаўцы). Па нейкім часе Вадзім пазнаёміў мяне з Федзем Петручуком. Ягоная сястрыца Валя вучылася ў Гайнаўскім белліцэі Федзеў бацька меў сталярскую майстэрню, затым сын дапамагаў яму ў рамястве. З настаўнікаў ніхто не запамятаўся. Дапамагла мне ў тым Тамара Шыкула, чаромхаўская настаўніца, якая родам з Вітава.


Даўняя школа ў Вітаве

— Памятаю кінаперасоўку, — канстатавала пані Тамара, калі я патэлефанаваў. — Зараз і вас прыпамінаю. У 1965 годзе ў першы клас паступіла. Кіраўніком, здаецца, быў Гацкевіч. Пасля быў Мікалай Міхалюк, а за ім Марыя Іванюк. Я закончыла пачатковую школу ў 1973 годзе пры гэтай апошняй. Пасля дзетак з Вітава давозілі ў Арэшкава.

Мікалай Міхалюк прыбавіў:

— Школу ў Вітаве ўзначальваў я чатыры гады. Да школы ў Вітаве хадзілі дзеткі з Доўгага Броду. У Чахах-Арлянскіх была свая школа. Як прыпамінаю, першапачаткова было дзесьці да сотні вучняў, але з году ў год лік скарачаўся. Як я адыходзіў у Кленікі, дык усяго заставалася пад семдзесят вучняў. У Чаромху я трапіў пазней і пераняў кіраўніцтва ад пані Надзеі Петрушкевіч. Кінаперасоўкі не прыпамінаю, каб прыязджала. Даязджаў я з Гайнаўкі, затым пасля ўрокаў вяртаўся дамоў. Прыпамінаю адно, што прыязджаў нехта з Гайнаўкі і на ўроках паказвалі асветныя фільмы.

Так гэта бывае з пісаннем летапісу пяцідзесяцігадовай даўнасці. Але факты застаюцца фактамі. Ранішнікі для школьнікаў у Вітаве арганізаваліся, як не ў час урокаў, дык пры канцы занят-каў. Пасля вячэрніх кінасеансаў шафёр з кінамеханікам падаваліся да сваіх гаспадароў на начлег, а я з мясцовымі кампаньёнамі заставаліся да позняга вечара на «пагадушках» у машыне. Кампаньёны прыносілі заўжды віно «патыкем пісанэ», паколькі ў мясцовай краме ў Сапяжынскага гарэлкі не прадавалі. Бывала, што стомленыя гаворкай ды позним часам хлопцы здрамнуліся пакрысе, а пры першых пеўнях летам, на досвітку разыходзіліся дамоў.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК




Сёлета ў Беларусі ў трэці раз ад моманту свайго ўзнікнення пройдзе моладзевы адукацыйны фестываль „Рэспубліка Мары". Упершыню ён быў праведзены ў жніўні 2014 года, дзе перад ягонымі ўдзельнікамі выступалі музычныя гурты, бізнесоўцы, навукоўцы і разнастайныя грамадскія актывісты.

„Асноўная ідэя фестывалю — будаўніцтва Рэспублікі Мары. Усе ўдзельнікі і ўдзельніцы зоймуць сваё месца ў краіне (ад бармена да парламентарыя) і зробяць РэМару great again!" — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта фестывалю, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://remara.by. Там жа сцвярджаецца, што дадзенае мерапрыемства — цудоўная магчымасць адпачыць з карысцю: цікавыя адукацыйныя споты, смачная ежа і душэўная музыка.

Праўда, адразу варта адзначыць, што сайт фестывалю не надта інфармацыйны. Там многа інфармацыі аб разнастайных ролевых гульнях, музыцы, адукацыі і адпачынку, але пабачыць даты і кантакты арганізатараў імпрэзаў не даводзіцца. Для таго, каб аб гэтым даведацца, трэба зайсці на старонку фестывалю ў Facebook. І ўжо адтуль цікаўнаму карыстальніку і патэнцыйнаму ўдзельніку „РэМары" стане вядома, што адбудзецца яна 9-12 жніўня пад Мінскам. „Першыя тры дні прысвечаныя ролевай гульні, дзе ўсе ўдзельнікі і ўдзельніцы зоймуць свае ролі ў дзяржаве і паспрабуюць праз гульнявы парламент пабудаваць уласную Рэспубліку Мары! А цягам суботы, 12.08, на трох адукацыйных пляцоўках лепшыя эксперты і эксперткі распавядуць пра самыя гарачыя тэмы ў сваёй галіне. А скончыцца наш фестываль сакавітымі музычнымі сэтамі", — распавядаецца ў Facebook. Дазнацца пра арганізатараў „РэМары" можна, перайшоўшы з сайта фестывалю на сайт Задзіночання беларускіх студэнтаў. Там, на старонцы „Актывізм як стыль жыцця" пазначана, што „РэМара" ёсць адным з праектаў арганізацыі.

Калі вяртацца на сайт фестывалю, то зроблены ён у набраўшым моц трэндзе сучаснага сайтабудаўніцтва, дзе, каб выйсці на рубрыкі трэба прагартаць выяўленне зверху ўніз. „РэМара — душэўная і маляўнічая краіна, якая паўстане між зялёных абшараў на тры цудоўныя дні, цягам якіх усе ўдзельнікі і ўдзельніцы зоймуць свае месцы ў грамадстве і пабудуюць сваю Рэспубліку Мары. У кожнага і кожнай будзе свая роля, пашпарт і грошы — а як развіваюцца падзеі надалей вырашыць дыялог і супраца!" — распавядаюць арганізатары фестывалю на галоўнай старонцы. Варта адзначыць, што дадзены кароткі тэкст ёсць, бадай, адзіным зразумелым расповедам аб сутнасці сёлетняга фестывалю на сайце. Таму, каб больш даведацца пра тое, што можа быць цікавага на „РэМары", трэба паглядзець на інфармацыю, змешчаную пад рубрыкамі „2014" і „2016" — у гады, калі праводзіўся фестываль.

Адметна, што пакуль у „РэМары" 2017 года няма нейкай вызначанай агульнай тэмы. На папярэдніх фестывалях іх удзельнікі высвятлялі, што адбываецца ў Беларусі — ідэальная краіна ці камуністычны рэванш і якая можа быць мадэль дзяржавы па матывах антыўтопіі Оруэла „1984".

Згодна з інфармацыяй 2017 года, на сёлетняй „РэМары" перад яе ўдзельнікамі плануюць выступіць два музычныя гурты — „РСП" з Мінска і „Колір" з Львова. Каб іх паслухаць, трэба зарэгістравацца на сайце фестывалю, клікнуўшы на гузік „Набыць квіток".

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара

Вайсковец, паўстанец, авантурнік



## 120 гадоў з дня нараджэння Антона Борыка

Беларускі палітычны і вайсковы дзеяч Антон Борык нарадзіўся 19 ліпеня 1897 г. у вёсцы Свілы (Воранаўскі раён Гарадзенскай вобласці). Паводле іншых звестак паходзіў з вёскі Сынкоўцы Сакольскага павета. Сустракаецца ў крыніцах і іншы год нараджэння — 1894. У кожным разе асоба гэтая, дзейнасць якой была магчыма супярэчлівай, варта згадкі і памяці. Хоць зараз цяжка вызначыць як фармаваўся светапогляд гэтага чалавека і якую эвалюцыю ён прайшоў.

З біяграфіі Борыка вядома, што ў 1917 годзе ён служыў у польскіх легіёнах Юзафа Доўбар-Мусніцкага. У 1918 годзе пакінуў вайсковую службу і пераехаў у Вільню. Там уваходзіў у склад Віленскай беларускай рады. Адзін з заснавальнікаў Беларускага нацыянальнага камітэта ў Гародні. Увахо-дзіў у беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У канцы сакавіка 1919 года ў гарадзенскім клубе „Беларуская хатка" на ўрачыстай вячэры ў гонар беларускага ўрада Борык узняў тост: „Няхай жыве Беларусь з Польшчай!", падтрыманы некаторымі прысутнымі.

Антон Борык стаў першым афіцыйным пасланнікам БНР у Нямеччыне. 23 сакавіка 1919 года прыбыў у Берлін з Гародні як кіраўнік Беларускай вайсковай місіі па справах ваеннапалонных. На пачатку красавіка наладзіў сувязь з Міжнароднай камісіяй па справах ваеннапалонных. Пачаў працу сярод беларусаў-вайскоўцаў. Дапамагаў яму ў працы генерал Кіпрыян Кандратовіч, які ўваходзіў у склад дэлегацыі БНР на Парыжскай мірнай канферэнцыі. 30 чэрвеня 1919 года разам з Кузьмом Цярэшчанкам заснаваў „Аддзел збліжэння палонены беларусаў у Нямеччыне з родным краем".

Вясной 1920 года Борык знаходзіўся ў Рызе. Там нечакана выявілася, што ён мае два пашпарты: беларускі пад № 29 і расійскі пад № 285, які выдала яму расійская дэлегацыя ў Берліне. Беларусы звінавацілі яго ў здрадзе. Тады Борык нібыта заявіў, што не лічыць сябе ні беларускім, ні расійскім грамадзянінам...

Да лета 1920 года працаваў выканаўчым дырэктарам берлінскай фірмы „Сіндыкат Сапегі для Еўропы і Азіі ў Беларусі", уласнікам якой быў Станіслаў-Леў Сапега-Ваявода, які пэўны час дапамагаў БНР грашыма. Знаходзячыся ў Германіі, Борык перадаваў грошы і сродкі беларускім школам. У сярэдзіне лета 1920 года ён з'ехаў з Берліна ў Латвію. Пасля едзе ў Гродна на запрашэнне беларускіх вайскоўцаў. Узначальваў агульны аддзел Беларускай вайсковай камісіі ў Лодзі.

У канцы лістапада прыбыў у званні капітана з Лодзі ў Семежава для ўдзелу ў Слуцкім збройным чыне. Разам з ім прыбылі яшчэ 3 афіцэры з 12 пасланых — капітаны Андрэй Якубецкі, Антон Сокал-Кутылоўскі, паручнік Тодар Янушэнка. Узначальваў штаб 1-й Слуцкай брыгады. Быў праціўнікам супольных дзеянняў з атрадамі Станіслава Булак-Балаховіча. Падаваў нататкі пра паўстанне ў газеты „Наша думка" і „Беларускае слова". Разам з прыхільнікамі генерала Булак-Балаховіча Хведашчэнем, Арсенем Паўлюкевічам Борык (магчыма змяніў адносіны да Балаховіча, пасля адхілення ад пасады шэфа штаба Слуцкай брыгады), адступіў з Морача, апошняга апорнага пункту случчакоў, у Давыд-Гарадок. Там паўстанцы і балахоўцы, якія да іх далучыліся, былі абяззброеныя палякамі. Пасля паразы паўстання — у Латвіі, потым у Коўне, Вільні, Варшаве. У Варшаве — адзін з арганізатараў структуры ТБШ.

У канцы 1930 гг. у Вільні, працаваў у кіраўніцтве віленскай чыгункі. Звесткі пра яго губляюцца з пачаткам Другой сусветнай вайны. Найверагодней загінуў на пачатку 1940 гадоў.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Дапамажыце невідучым!

У Беластоку ездзіць многа пасажырскіх аўтобусаў гарадской камунікацыі. Маюць яны нумары розных ліній. Нумары павінны быць бачны здалёк. Не ў кожнага ж сакаліны зрок.

У шматлікіх навейшых аўтобусах нумар высвятляецца. Усё ж далёка не ўсе маюць такую электроніку. А шкада, бо тады цяжка ўбачыць нумар лініі людзям са слабым зрокам. Аўтобусы не замаруджваюць на прыпынках і хутка зачыняюць дзверы. Невідучым яшчэ цяжэй разабрацца, калі на прыпынак прыедуць адразу два або тры аўтобусы. Пасажыры з заганамі зроку ў такіх выпадках перажываюць стрэс.

Вадзіцелі аўтобусаў Беластоцкай гарадской камунікацыі (БКМ) добра ведаюць і бачаць, што часта ездзяць пажылыя і слабавідучыя жыхары горада. Ведаюць і забываюць. Яны спяшаюцца. У іх жа расклад язды і яны маюць на ўвазе гадзіны ды мінуты, якіх ім трэба прытрымлівацца. А тут яшчэ ім маршрут што і раз зьмяняюць, бо ўлетку ў многіх месцах Беластока рамантуюць маставыя і будуюць новыя адрэзкі вуліц.

Дзе тады людзям са слабым зрокам шукаць паратунку? Паўна ў дырэктара БКМ. Так, што да яго адрасую гэты допіс. Перадаю справу ў яго рукі. А так увогуле, то ўсе мы павінны дапамагаць невідучым. Не забывайма пра гэта і на прыпынку аўтобусаў гарадской камунікацыі. Калі нехта пытае, з якім нумарам лініі прыехаў аўтобус, адкажыце на пытанне. Яму гэта важна. Будзе вам удзячны і ветліва падзякуе. **(яц)**

## Гайнаўка без гадзіннікавай майстэрні?

Будучы ў Гайнаўцы, мне спатрэбілася адрамантаваць ручны гадзіннік. Запытаў я сябру Аляксея Бялеўскага, шматгадовага гараджаніна, дзе тут знайсці гадзіншчыка:

— Не ведаю ці ў горадзе знойдзеш гадзіннікавую майстэрню. Калісьці такая была за касцёлам. Здаецца, што і другая была ў горадзе. Зараз не прыкмеціў ніводнай шыльды.

Калі спатрэбіцца паправіць гадзіннік, дык майстра днём з агнём шукай. Такая ж праблема і ў гмінай Чаромсе. Рыначак завалены ўсялякага роду кітайскімі гадзіннікамі. Дарэмшчына. Усяго 15-20 зл. штука. А батарэйку замяніць быццам справа малаважная, але няма дзе аформіць. Прадавец зробіць, але ўдвая злупіць — 2 зл. за батарэйку, ды столькі ж за работу. Нічога дарэмнага не бывае. Такое ўжо воўчае права натуры! **(ус)**

# Прыгожыя звонкія песні




12 ліпеня гэтага года стаяла прыгожая ды цёплая пагода і ў гэты дзень наладзілі беларускі народны фэст у Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. У амфітэатры поруч керамічнай фабрыкі сабралася многа людзей. У гэты ліпеньскі дзень у Старaляўкоўскай парафіі святкуюць Пятра і Паўла.

Культурна-забаўляльнае мерапрыемства адкрыў Мікалай Павільч, войт Нараўчанскай гміны. Сардэчна прывітаў ён усіх удзельнікаў фэсту і зычыў самых лепшых музычных уражанняў ад канцэрта і добрай забавы. Першым на мабільнай гміннай сцэне выступіў фальклорны калектыў „Цаглінкі” са Старога Ляўкова, у якія прыйшлі спяваць новыя асобы, між іншым, тры з сям'і Пякарскіх. Музычны кіраўнік ансамбля Мікалай Мяжэнны вельмі задаволены з папаўнення. Калектыў выконвае перш-наперш беларускія песні. Часта прапануе „Семяноўскую чайку” на словы Мікалая Варанецкага і музыку Мікалая Мяжэннага, а гэтым разам і песні застольныя.

Другім выступіў гурт „Retro Beats” з Гайнаўкі. Салістка спявала беларускія, украінскія і польскія песні. Пад музыку гэтага гурту пары кінуліся ў танцы.

Маладых здорава раскруціў у танцы чаргова эстрадны калектыў „Зорка” (на здымку) з Беластока. Найперш праспяваў „Белые розы”, затым песні „Белая рамашка”, „У садзе гуляла”, „Цыганочка” і „Толькі з табою”. Паміж песнямі з нагоды свята былі самыя лепшыя пажаданні ад калектыву ўсім Пятрам і Паўлам. Ды зноў і зноў плылі звонкія песні „Цячэ вада ў ярок” і г.д. Тых адважных, хто прыгожа танцаваў, гурт узнагароджваў кружэлкамі, на якіх запісаны песні ў яго выкананні. На заканчэнне канцэрта ляўкоўскую публіку бавіў гурт „Oldstyle” з Беластока. Усе калектывы выступілі паспяхова. Прыемна і весела было паслухаць песень у вольны час. Прадпрымальнікі паставілі ларкі, у якіх было чым падсілкавацца. Было ўдоваль піва і марожанага. Апрача таго кожны мог купіць сабе нейкі сувенір.

Ноччу доўга не выключалі вулічнага электраасвятлення. Ішлі танцы пад спеў і гучную музыку калектыву „Аксель”. Гулялі моладзь і старэйшыя. Сёлетняе свята Пятра і Паўла надоўга застанецца ў памяці не толькі мясцовых жыхароў.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Парк з бярозамі

Летам многа гараджан адпачывае ў цяньку ды прагульваецца ў гарадскім парку ў Гайнаўцы. Дзеці маюць свой прытульны куточак для гульняў. У пагодлівы дзень яны прыходзяць сюды з бацькамі. Тады тут вясёлы гоман. У парку растуць перш-наперш прыгожыя бярозы, шмат тут ліп, ясеняў, клёнаў, вербаў, туй. Ёсць таксама дубы, але іх няшмат. Некаторыя з іх пры вуліцы Парквай ссеклі. Былі яны старыя і засохлі. Ссеклі і некаторыя іншыя дрэвы. Шкада, што на іх месцы не пасадзілі маладзенькіх бярозак. Тут даволі вялікія прагаліны. І іншая мая заўвага — у парку няма кветак. Гэтак не павінна быць.

У парку шмат птушак, якія прылятаюць сюды з Белавежскай пушчы. Іх прыгожы спеў чуваць там, дзе дрэвы растуць густа. Пасяліліся тут і шматлікія галубіныя сем'і.

У парку дагледжаныя алейкі — асфальтавыя і з чырвонай брусчаткі. Пры іх шмат лавачак і побач іх сметніцы. Цяпер у парку зялёна, чыста і ўтульна. На лавачках ахвотна праседжваюць пенсіянеры. Хлапчукі і дзяўчаты прыязджаюць сюды на роварах, тут сустракаюцца. **(яц)**

# 23.07 — 29.07

**(22.03. — 20.04.)** 22-24.07. знойдзеш неканвенцыянальнае вырашэнне праблем. 26-30.07. завершацца працяглыя спрэчкі. Амбіцыя падштурхне цябе да новых выклікаў, але памятай аб блізкіх асобах. Многа прыемнасцей, любоўныя ўдачы.

**(21.04. — 21.05.)** Прыйдзецца пазаймацца непрыемнай тэмай. Але прынамсі будзеш яе мець урэшце «з галавы». Свежазавязаныя знаёмствы набяруць тэмпу, а табе прыйдзецца згодна адказваць на прапановы. У парах ужо «ўдамоўленых» будзе віць сваё гняздзечка. 22-28.07. хтосьці з сяброў, хто табе нядаўна памог, сам знойдзецца ў кабале і трэба будзе яму памагчы. Найлепшы выезд з сябрамі — пасля 26 ліпеня.

**(22.05. — 22.06.)** Прыемныя падарожжы, адкрыванне новых захапленняў — да 25.07. Кожны хоча пазнаёміцца з табою бліжэй. Для Блізнят з другой дэкады небяспечныя сацыял-медыя; размаўляй з партнёрам, які сядзіць побач! Але калі шантажуе цябе эмацыянальна, не дазволь яму на гэта! Прыдасца тваё валоданне мовамі — будуць кантакты з замежжам. 22-26.07. можа ахапіць цябе хандра; пашукай уцех іншых чым піровжнае ці марозіва.

**(23.06. — 23.07.)** Зоркі змабілізуюць цябе да дзеяння і падкажуць, дзе зарабіць. Сілай характару і адвагай заімпануеш іншым. Заразіш іншых сваім энтузіязмам. Але магчымыя любоўныя турботы. Засяродзься над тым, што вас паспрачала з партнёрам. Усё можна яшчэ паправіць. Не ўцякай ад нялёгкіх тэм. Грошай табе хопіць, але аб тым, ці ты шчаслівы, не вырашае стан твайго кашалька.

**(24.07. — 23.08.)** Маладзік Месяца (23.07.) паможа табе лепш зразумець сябе самога. 26-30.07. будзеш каралём імпрэз і кампанейскіх сустрэч. Але кан'юнкцыя Сонца з Марсам (23-28.07.) можа давесці цябе да галаўнога болю ад турбот. Больш адпачывай, але не бойся — цікавыя нагоды цябе не абмінуць! 22-24.07. твая творчая ўява і крэатыўны падыход прынясуць геніяльныя вырашэнні.

**(24.08. — 23.09.)** Меркурый у тваім знаку (ад 26.07.) паможа табе падагнаць усе «хвасты» на працы. Юпітар у Шалях задбае пра твае фінансы. Толькі на полі любові і кампаніі можа замяшаць непрыхільная цяпер Венера. Не шалей з выдаткамі, бо можаш усё прапусціць у адзін вечар! А ўпрыгожвацца пачнеш пасля 30.07.

**(24.09. — 23.10.)** Спадзявайся моцнай падтрымкі ў кожным мерапрыемстве. Таксама ад сяброў. Капне табе штосьці з нябеснай манны ў кашалёк! Неспадзяваны падарунак ад лёсу чакай ад 28.07. (да 31.07.). Дыхай летам!

**(24.10. — 22.11.)** Меркурый паможа табе ў працы і загарантуе добры адпачынак. 23-28.07. будзеш мець сілу для перамогі над ворагамі. Калі ты нарадзіўся ў кастрычніку, твае задумы не спадабаюцца кіраўніцтву, але разлічвай на калег. Зацікаўся натуральнай медыцынай. Спрабуй цяжкага мастацтва ператрывання ў глушы.

**(23.11. — 22.12.)** Знойдзеш час і на працу, і для блізкіх знаёмых. Таксама на прыемнасці. Каханне не раз цябе заспее і задзівіць. Вылічаш зацікаўленасць іншага полу, будзеш вабіць і захапляць. Увесь ліпень вакол цябе мноства цікавых знаёмых. Час спрыяе далёкім падарожжам. Будзеш крыху раздражнены, але не страціш добрага настрою. Не зачыняйся дома. Прымяняй арганавы алей.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш шустры і прыдзірлівы, шукаючы праціўнікаў. Гэта ж многім можа не спадабацца, таксама сябрам. Дарэчы, на іх не вельмі можаш разлічваць, бо ўсе раз'едуцца на канікулы. Пільнуй жыллё, застрахуй яго. Калі табе штосьці дакучае, адразу ідзі да доктара.

**(21.01. — 19.02.)** Баран будзе ўтыкаць свой нос у твае справы. Сапраўднае захапленне тваёй асобай пакажуць Шалі. Удасца табе зарабіць на канікулы, пра якія можна толькі марыць. Вадалеі ў парах дні 23-28.07. павінны выкарыстаць на скрасанне полымя ў каханні, а купляючы жыллё з 28.07. (да 31.07.) могуць трапіць на сапраўдную жамчужыну. Нікуды не спяшайся, асабліва еўшы, цешся кожным каваласкам.

**(20.02. — 21.03.)** Можаш парваць з тым, што табе шкодзіць. Выкажаш ініцыятыву — поспех гарантаваны. Дзейнічай адважна, смела. Але мусіш ведаць, чаго хочаш. Самотная Рыба няхай пакуль не ўваходзіць у новыя адносіны, бо можа гэта кончыцца кепска. Шукаючы працу, разлічвай на новы вопыт, які дасць табе новая работа, хаця можа яна пакуль не вельмі цікавая. Будзь асцярожны на вадзе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | 2 | | | | | | 3 | | | | | | |
| | | | | | | | 4 | | | 5 | | 6 | | | |
| | | 7 | | | 8 | 9 | | | 10 | | | 11 | 12 | | |
| | | | | | | | | | | | 13 | | | | 14 |
| | | 15 | 16 | | | | | 17 | | | | | | | |

**1.** плод ляшчыны, **2.** вялікае зборышча людзей, тлум, **3.** вадкасць у венах, **4.** 3,14, **5.** старазапаветны пакутнік, **6.** сакрэтнае ўмоўнае слова для канспіратыўнага апазнання сваіх, **7.** Міхал Казімір, ваявода смаленскі і гетман вялікі літоўскі, ад якога, магчыма,.. пацыфікацыя, **8.** горад у Смаленскай вобласці на рацэ Дзясне, **9.** *мясцЕчка* ў Сербіі на рацэ Бега (45°Я19'04"N; 20°26'20"E), **10.** абурэнне, злосць, **11.** адтуліна ў вясёлкавай абалонцы вока, **12.** узор, уяўленне (*image*), **13.** паэма Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, **14.** сталіца Аўстрыі, **15.** камерсант рэдкіх і старых кніг, **16.** вар, у якім... пень, **17.** Луіджы, прэм'ер-міністр Італіі ў 1922 годзе (*Facta*),

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з № 27**

Ака, атака, гелій, дух, душа, леў, мех, туз, укол, уток.

Рашэнне: **Хто халадку ўлетку шукае, той узімку галадае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (91)

Нобель зачараваў ад першага погляду. Я не ведала, што на зямлі ёсць яшчэ такія прыгожыя месцы. Перад тым як аўтобус спыніўся ў пачатку мясціны, я ўгледзелася праз акно ў васільковыя тоні возера, над якім грацыёзна кружылі белыя чаплі. Як рукой адняло стомленасць і страх перад новымі выклікамі. Едучы ў Нобель, я не ведала нікога. Не ведала, ці натраплю на сляды беларускага паэта Сяргея Грахоўскага, які нарадзіўся тут у 1913 годзе і з'ехаў у свае дзесяць месяцаў, вясной 1914 года, назаўсёды. Адна перасцярога, якую падказалі мне ў дарозе добрыя людзі, гучала быццам з іншай планеты:

— За адзін дзень вы не зможаце справіцца і адтуль вярнуцца!

Так сапраўды атрымалася, але мне адразу хацелася прызямліцца ў Нобелі, застрагнуць тут хаця б на адну ночку. Звабіла не толькі сонца, якое ў гэты дзень насыціла неба і зямлю інтэнсіўнымі колерамі і духмянымі пахамі. У пачатку сяла, на васільковай сцяне вясковага клуба, прыаздобленага салярным знакам, прывітала мяне мемарыяльная дошка ў гонар Сяргея Грахоўскага. Здавалася, князь беларускай паэзіі пасылае ў мой бок усмешку на прывітанне. Пасля дваццаці дзевяці гадзін дзіўнага падарожжа, дарэчы, ад суседняга, Любашоўскага раёна, я мела права адчуць сябе стомленай. Адзін позірк на дошку з паэтам апраўдаў маё крайне некамфортнае падарожжа. Ды сам Сяргей Грахоўскі на нобельскай дошцы напамінаў біблейнага прапаведніка і вечнага бадзягу-вандроўніка.



Нобель

* * *

Валя Ташлыковіч, прылюдная галавіха Нобельскага сельсавета, звыклася з тым, што ўсе прыезджыя наракаюць на дарогу. Вось, нават крутыя хлопцы з Нацыянальнай гвардыі, якіх накіравалі сюды лавіць нелегальных капачоў бурштыну, адразу пасля прыезду замест пра магазін спыталі:

— А дзе ў вас асфальтавае шасэ?

Яна не ведала як патлумачыць гарадскім хлопцам, што ў іх ніколі не было асфальтавай дарогі. Тая брукаванка, у бок якой прыезджыя кідалі грубыя праклёны, явілася нобельскім людзям прызнакам цывілізацыі. Раней тут зусім не было дарогі, а ў суседнія вёскі хадзілі толькі ў сухую пару па пратаптаных сярод балот сцяжынках. Падобны бездарожны вобраз насіў у душы Сяргей Грахоўскі. Пакуль не наведаў роднай мясціны ў 1961 годзе, ён думаў сентыментальнымі вобразамі аповедаў маці, якая з ахвотай расказвала яму пра мясціну. Гэты, складзены з успамінаў і настальгіі Нобель знаходзіўся дзесьці сярод непраходных балот і лясоў, на пясчаным паўастраўку, атуленым рыбным возерам. У мясціну дабіраліся толькі вадзяным шляхам, па рацэ і азёрах. Маці запамятала яшчэ задушэўныя песні, якія вечарам на вуліцах спявалі дзяўчаты ...

* * *

У Нобелі не ведалі, які характар меў першы прыезд Сяргея Грахоўскага ў 1961 годзе. На той час ён працаваў загадчыкам «Вясёлкі». Мабыць гэты візіт, які здзейсніўся пад начной заслонай, меў крайне прыватны характар. Пасля гулагу і сібірскай ссылкі паэт паводзіў сябе і непрыкметна, як дух. Вядома, што ў Нобель прыплыў познім вечарам на параплаве з Пінска. На дварэ стаяла спелая, цёплая восень. Палову ночы ён кружыў па заспаных вуліцах і завулках старажытнага мястэчка. Наведаў хату, дзе жылі яго бацькі. Зараз на гэтым месцы пасяліліся Чарнякевічы. Пра візіт піша сам Грахоўскі ў пісьме, накіраваным на адрас нобельскай школы. Паэт тлумачыць прычыну свайго таемнага знікнення. Пра ўсё вырашыла вада. Піша, што на Прыпяці вада рэзка панізілася, таму яго параплаў адплываў на шэрым золку ў Пінск.

З гэтага візіту Грахоўскі запамятаў старыя вязы ля вуліцы. Іх магутнасць апісаў так: *каб іх абняць, трэба трох дарослых мужчын*. У памяці застраг вобраз белай царквы на ўзгорку. Быццам для апраўдання дадаў, што там яго *калісь* ахрысцілі. Ці ведаў ён, што мураваная царква была ўзведзена на месцы старой чатырнаццаць гадоў пасля яго нараджэння, ужо пры паляках, у 1927 годзе? Здаецца, першы візіт паэт найбольш адчуў нагамі. Самы цёплы і энергетычны фрагмент ліста датычыць вандроўкі пясчанай вуліцай. Мясціну спавіваў спакойны, лагодны сон, пахла спелай, сферментаванай садавінай. Здавалася, усё праваліласа ў ноч рэгенеравасць сілы перад новым працоўным днём, гаротнай, калгаснай штодзённай. Настрой цішыні і шчасця хутчэй за ўсё нашэптваў ласкавы пясок пад нагамі. У начной цішы, Грахоўскі лавіў гукі мінуўшчыны, думаў пра продкаў, якія застраглі ў гэтым дзівосным закутку зямлі. Каля клуба, пачуў задушэўную мелодыю. Паэт спыніўся на момант, каб паслухаць шчымлівай ігры самотнага гарманіста.



Валя Ташлыковіч (у цэнтры)

* * *

— У нас шмат завулкаў, — кажа спадарыня галавіха, — аднак толькі адзін завулак мае свой афіцыйны назоў. Ён названы ў гонар Сяргея Грахоўскага. Праўда, галоўная тут вуліца Цэнтральная, якая цягнецца сярэдзінай паўвострава і спалучае з сабой усе завулкі. Вуліца Цэнтральная, аднносна маладая, яна з'явілася толькі пры Незалежнай Украіне.

— А раней тут была вуліца Леніна?

— Канешне, Леніна!

Валянціну Нікалаеўну Ташлыковіч сустрэла я на вуліцы Цэнтральнай. Яна закончыла якраз працоўны дзень і збіралася дамоў. Калі б я спазнілася пяць хвілін, мой візіт у Нобелі выглядаў бы зусім інакш. Колькі часу і нерваў заняў бы хаця б адзін пошук начлегу. А так усё атрымалася гладка і нават лепш, чым можна прыдумаць. Галавіха Валя з выгляду напамінала маю родную сястру Галю, таму між намі спантанна спрацавала, поўная зразумення і цеплыні сувязь. Яна, літаральна з ходу, арганізавала мне начлег і назначыла гіда ў асобе Галі Багдановіч, настаўніцы матэматыкі, апякункі школьнага музея, шчырай, інтэлігентнай жанчыны. Галя, у сваю чаргу, гаварыла як мая кутлоўская суседка Ірка, са старой Радзімы. Я слухала яе меладычны голас, і думала: «Куды ж я папала?!».

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**







Вуліца Сяргея Грахоўскага

ISSN 0546-1960